
Суседзі ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Гурт «Ас» ➔8-9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 10 (3278) Год LXIV | Беласток, 10 сакавіка 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Юбілейны Конкурс беларускай гавэнды

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Лепшыя пастаянныя ўдзельнікі Конкурсу беларускай гавэнды навучыліся добра расказваць, умеюць паказаць свае акцёрскія ўмеласці, аратарскія здольнасці, а таксама выклікаць эмоцыі ў публікі. Амаль штогод дабіваюцца поспехаў, а да пераможцаў далучаюцца падчас чарговых выпускаў гавэнды новыя расказчыкі. XX Конкурс беларускай гавэнды — Гайнаўка 2019 адзначаўся высокім узроўнем расказвання і вялікай колькасцю ўдзельнікаў.
22 лютага ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы займальна выступілі вучні пачатковых і гімназічных школ, а таксама белліцэіст, які, пачынаючы з пачатковай школы, пастаянна дабіваецца поспехаў у час конкурсу расказчыкаў. Перад публікай 31 расказчык змагаліся за перамогу распавядаючы па-беларуску між іншым пра здарэнні са свайго жыцця, расказваючы пра вучобу і спасылаючыся на жыццё дарослых асоб і іх клопаты.

Пры нагодзе круглага юбілею, XX выпуску Конкурсу беларускай гавэнды, была паказана мультымедыйная рэтраспектыўная прэзентацыя конкурсаў. Публіка ў актавай зале белліцэя паглядзела здымкі з розных выпускаў конкурсу, да якіх каментарый даваў настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі, ініцыятар і галоўны арганізатар Конкурсу беларускай гавэнды, які ладзіцца з 2000 года. Побач пераказвання зместу казак і легенд, сталі паяўляцца аўтарскія расказы, якія вучні рыхтавалі самастойна або з дапамогай настаўнікаў, бацькоў і апекуноў. Настаўнікі, ведаючы магчымасці вучняў, дапамагалі ім рыхтавацца да выступаў так, каб маглі яны паказаць як найбольш сваіх козыраў. Перамога ў вялікай ступені залежала ад акцёрскіх здольнасцей удзельнікаў спаборніцтваў. Узровень Конкурсу беларускай гавэнды павысіўся. Канешне, не адбывалася гэта з году ў год, паколькі бывала, што ў некаторых гадах выступала менш падрыхтаваная моладзь. Вучні, якія выступалі ў першых выпусках конкурсу расказчыкаў, цяпер ужо ў сваіх сем'ях выхоўваюць дзетак, якія могуць стаць удзельнікамі конкурсу расказчыкаў у бліжэйшых гадах.

— За гэтыя 20 выпускаў конкурсу выступілі сотні ўдзельнікаў. Зацікаўленасць конкурсам увесь час вялікая. Сёння запрэзентаваліся звыш трыццаці расказчыкаў. У Беларускай гавэндзе, побач аратарскіх умеласцей, важнымі з'яўляюцца інспірацыя і арыгінальнасць расказаў, творчая вынаходлівасць, а дапамагаюць спантаннасць, жэсты, рэквізіты. Каб добра расказаць, трэба разумець тэкст і ўмець зацікавіць расказам публіку. У многіх выступоўцаў наглядаецца добры кантакт з публікай, што можна было таксама заўважыць сёння, — сказаў Ян Карчэўскі.

Арганізатарам Беларускай гавэнды з'яўляецца Аб'яднанне «Наша школа», якое дзейнічае пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы. Старшыня аб'яднання Ян Карчэўскі ўжо традыцыйна адкрыў Конкурс беларускай гавэнды і прывітаў сабраных. Сярод іх былі саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы Юры Калабухаў, прадстаўніца бургамістра Гайнаўкі — галоўнага спонсара Беларускай гавэнды



Ян Карчэўскі


Малгажата Галёнка


Зося Раманюк


Марта Хілецкая


Барташ Яканюк

Дарота Бандарук, дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук, пісьменнік Міхась Андрасюк, які прыйшоў паслухаць расказу ў выкананні ўнука, і настаўнікі беларускай мовы з паасобных школ. Настаўнік Ян Карчэўскі пералічыў спонсараў гавэнды, якімі апрача бургамістра Гайнаўкі былі Культурны цэнтр Рэспублікі Беларусь у Польшчы, Павятовае стараства ў Гайнаўцы, Фонд «Kamunikat.org», а таксама рэдактар «Зоркі» Ганна Кандрацюк, Галіна і Ян Максімюкі, якія перадалі свае кніжкі на ўзнагароды вучням. Пасля рэтраспектыўнай прэзентацыі Конкурсу беларускай гавэнды сталі выступаць расказчыкі са школ у Гайнаўцы, Навакорніне, Нарве, Міхалове, Белавежы, Нараўцы і Чыжах.

Першае месца сярод вучняў да шостага класа пачатковай школы заняла Зося Раманюк з Навакарнянскай школы, якая займальна распавядала пра сваіх сямейнікаў, з якіх большасць вучылася ў Гайнаўскім белліцэі, у тым ліку мама, яе сёстры і браты бацькі. Выдатна запрэзентавалася з аповедам пра кісель Марыя Бармута з Белавежскай школы і заняла другое месца. Малгажата Ваўранюк з Нарваўскай школы, якая распавядала пра паездку ў Кракаў, таксама заняла другое месца.

— Я спецыяльна падрыхтавала Малгажаце такі тэкст для аповеду, каб яна магла паспяхова справіцца з расказам, хаця ў маёй вучаніцы ёсць праблемы з вымаўленнем. Такім вучням патрэбны публічныя выступы, каб набралі адвагі і маглі паказаць, што ўмеюць справіцца са складанымі задачамі. Братоў Кутузавых і Алівію Рэпку (заняла трэцяе месца сярод малодшых вучняў) падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Ніна Абрамюк.

— Я рыхтавала вучняў, якія ў такім конкурсе выступаюць упершыню. Я сама сёння таксама знаёмлюся з конкурсам, — распавядала настаўніца беларускай мовы ў Нарваўскай школе Тамара Бялькевіч, якая перайшла на працу ў Нарву з Гарадоцкай школы.

Вялікіх поспехаў у Конкурсе беларускай гавэнды дабіліся вучні Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы. Барташ Яканюк у старэйшай катэгорыі вучняў заняў першае месца, а Магдалена Кендысь і Шымон Юшчук апынуліся на трэцім месцы.

— З нашай школы прыехала пяць вучняў. Некаторыя з іх выступяць упершыню. Барташ Яканюк, шматгадовы пераможац, сёння запрэзентуецца з аўтарскім расказам. Аднак большасць састаўляюць вучні малодшых класаў, якія яшчэ вучацца расказваць, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў ПШ № 4 Беата Кендысь.

Сярод бабуль і дзядуляў, якія прыбылі паслухаць расказаў сваіх унукаў, былі пісьменнік Міхась Андрасюк з жонкай і сваянькай. Іх унук Караль Андрасюк, вучань ПШ № 4, выступіў адважна і пераконваў, што трэба карыстацца сваім розумам, а не слухаць падказак іншых асоб.

— Патэнцыял да расказвання ў Караля ёсць, — заявіў дзядуля Міхась Андрасюк, які ў гэты ж дзень даў інтэрв'ю для Радыё Рацыя наконт сваёй нававыдадзенай кніжкі «Поўня».

Паслухаць расказы на белавежскай гаворцы ў выкананні Марты Хілецкай прыбыла ў белліцэй яе мама Галіна Хілецкая і прабабуля, якая захаплялася выступамі сваёй праўнучкі і астатніх выступоўцаў.

— Праўнучка Марта вельмі здольная дзяўчынка, — сказала прабабуля Марты Хілецкай, якая заняла першае месца ў катэгорыі старэйшых вучняў. Настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская панфармавала, што дала Марце аповед на белавежскай гаворцы, таму што яна зарыентаваная ў вымаўленні дыялектных слоў.

— Да конкурсу расказчыкаў больш складана падрыхтаваць, чым да дэкламатарскага конкурсу. Прымаюць у ім удзел

працяг ☞10





# Светлая зайздрасць

З дзяцінства ў мяне немаведама адкуль была нейкая асаблівая сентыментальнасць да эстонцаў. Магчыма таму, што Эстонія была самай маленькай рэспублікай велізарнага Савецкага Саюза. Калі іхнія спартоўцы ці спевакі выбіваліся на вяршыню Алімпа, гэта заўсёды ўспрымалася як нейкая неверагоднасць альбо нават маленькае цуда. Адным з маіх спартовых куміраў быў эстонскі велагоншчык Аава Піккуус, уражвала як юнак з маленькай вёсачкі праз шалёную канкурэнцыю здолеў узняцца на вяршыню п'едэсталаў.

Ужо ў савецкім войску я пасябраваў з некалькімі эстонскімі хлопцамі. Аб'яднала нас цікавасць да музыкі, а калі я пры знаёмстве назваў сваім новым эстонскім прыяцелям пяць-шэсць прозвішчаў іх нацыянальных герояў, то да канца нашай армейскай службы застаўся іх сябрам. У самой Эстоніі давялося пабываць толькі адзін раз — гадоў пяць таму. Уражанні ад маленькай дзяржавы на ўскрайку Еўрасаюза засталіся тады толькі пазітыўныя. Стараюся не прапускаць публікацыі пра жыццё і палітыку гэтай краіны. Паводле майго, канешне суб'ектыўнага, меркавання Эстонія адзіная з усіх пятнаццаці былых рэспублік Савецкага Саюза здолела правесці паспяховыя рэформы, уладкаваць эканоміку і культуру, арганізаваць прыбытковы турызм. Пра Эстонію вельмі мала чуваць у выпусках навін, а гэта адзін з выразных паказнікаў пазітыўнай стабільнасці і спакойнага развіцця.

А днямі ў Эстоніі адбыліся парламенцкія выбары. Што характэрна, яна стала першай краінай у свеце, якая поўнасцю перайшла на электронную сістэму галасавання. Гэта значыць, што людзям не трэба ісці на выбарчыя ўчасткі, прагаласаваць можна не выходзячы з дому, націснуўшы некалькі кнопак на сваім хатнім камп'ютары. Прызнацца, мяне такія формы галасавання крыху насцярожваюць, паколькі жывем у час татальных тэхнічных маніпуляцый і фальшаванняў. Аднак, ніякіх асаблівых нараканняў вынікі галасавання не выклікалі, гучных скандалаў, здаецца, няма. І гэта пры тым, што на выбарах перамагла апазіцыйная Партыя рэформ. Выяўляецца, што эстонскаму народу хочацца жыць яшчэ лепш. А ў палітыцы ж існуе міф пра тое, што выбарцы ніколі не прагаласуюць за нейкія рэформы!

Усяго ў выбарах у вышэйшы заканадаўчы орган Эстоніі ўдзельнічалі ажно 10 партый. І вось тут сапраўды можна па-добраму пазайздросціць грамадзянам гэтай краіны. Больш-менш пазнаёміўшыся з праграмамі гэтых партый, я зразумеў, што прынамсі за палову з іх гатовы быў бы аддаць свой голас. Усе палітычныя сілы ў той ці іншай ступені шануюць нацыянальныя і дэмакратычныя каштоўнасці, што з'яўляецца гарантам развіцця.

Адно з ключавых праграмных палажэнняў Партыі рэформ — гэта патрабаванне „адзіных паводзін Еўрасаюза ў дачыненнях з Расеяй". Пад гэтым „рэфармісты" разумеюць паслядоўную падтрымку антыкрамлёўскіх санкцый усімі краінамі Еўрасаюза. Лідар партыі Тааві Рыйвас яшчэ ў 2015 годзе заявіў на партыйным з'ездзе, што трэба зрабіць усё, каб падтрымаць Украіну ў яе абароне ад Расеі. Выказваючы хваляванне за Украіну, эстонцы слушна хвалююцца і за сябе — мець такога агрэсіўнага суседа як імперская Масковія — гэта сапраўдная небяспека. Невыпадкова Эстонія так спяшалася ў НАТА, а яе рэформа і мадэрнізацыя войска заслугоўваюць асаблівага захаплення.

Другое месца на выбарах заняла кіроўная сёння Цэнтрысцкая партыя на чале з прэм'ерам краіны Юры Ратасам. А вось трэцяе месца выразна паказала рост папулярнасці правай кансерватыўнай Народнай партыі. Гэтая сіла выразна выступае за традыцыйныя каштоўнасці, супраць аднаполых шлюбаў і іншых леваліберальных прыярытэтаў. Яна таксама заклікае нарошчваць ваенны бюджэт і патэнцыял для абароны ад Расеі. Кансерватыўная Народная партыя наўрад ці ўвойдзе з кім-небудзь у парламенцкую кааліцыю і, думаецца, неўзабаве стане асноўнай апазіцыйнай сілай.

У кожным разе амаль усе аналітыкі адзначаюць, што нейкіх рэзкіх і кардынальных змен у знешняй і ўнутранай палітыцы Эстоніі не адбудзецца. Гэтая краіна прагне ўмацоўваць свой суверэнітэт і развівацца далей.

❖ **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Ліс і снегавік

Што звязвае гэтыя дзве не асабліва відовішчныя падзеі, якія адбыліся ў апошні час у Расіі і Беларусі? Пра іх ніжэй. Толькі што нічога іх не спалучае! Гэта самае інтрыгуючае.

Першая падзея: дзяржаўныя органы ў расійскім Саратаве канфіскавалі 12 кг польскага сыру, які прыбыў у гэтую краіну нелегальна. Што за сыр, невядома. Магчыма, быў смачны... што вынікае з патрыятычнай прапаганды... таму што ён польскі! Здарэнне адбылося некалькі тыдняў таму. Некалькі месяцаў раней у іншым горадзе захапілі тры польскія замарожаныя гусі. Таксама незаконныя. Па гэтых неадкладна і без суда пракаціўся бульдозер, але ў прысутнасці тэлекамер. Над сырам быў праведзены паказальны суд, завершаны пакараннем яго на касцёр. Перад выкананнем экзекуцыі, каб паказаць сур'ёзнасць чыноўніцкага суда, урачыста прачыталі перад ёю адпаведную формулу. «[Нелегальны ў Расіі — мая прыпіска]... тавар на падставе ўказа Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі падлягае [...] знішчэнню ва ўстаноўленым парадку". Прэзідэнтам РФ з'яўляецца Уладзімір Пуцін, ён таксама, падпісваючы ўказы, адказвае асабіста за „усталяваны парадак" у Расіі. Усё роўна, ці датычыць ён гіганцкай карупцыі расійскай улады, ці пакутніцтва польскага сыру. Таксама расійскага спажыўца. Што самі расіяне аб гэтым думаюць — іх справа. А калі гаворка пра польскі сыр, то я даю сабе права на выказанне асабістага канфузу. Атрымліваецца, што сыр — не абы-што. Гэта польская справа. За выключэннем, аднак, плаўленага сыру. Гэта не так польскі як міжнародны нягоднік па смаку. У яго абарону не аб'явіў бы я Расіі ні вайны, ні нават кіўнуў бы ў яго напрамку патрыятычна працягнутага сярэдняга пальца. Іншая справа ў выпадку такога, напрыклад, цвёрдага і доўга даспяваючага гайнаўскага сыру, кароны польскай малочнай прамысловасці — «Царскага». Без вайны за яго гонар не абылошся б. Думаю, аднак, што гаспадзін Пуцін — хітры ліс не наважыўся б да здзеку над ім. Было б гэта вартым смеху. Смешнасць для палітыка часам смяротная. Уявіце сабе, колькі кантэкстных смачкоў прынесла б злачынства над «Царскім» сырам па ўказе ўсёмагутнага прэзідэнта Расіі? Толькі ці расіян? Аднак, не трэба сумнявацца, што экзекуцыя польскага сыру (на жаль, не гайнаўскага) у Саратаве мела характар замены. Цяжка без палітычных наступстваў свайго суседа называць ворагам. Але сыр — калі ласка. Знешні вораг для спустошанай самой сабою ўлады неабходны, каб яе ворагам не стаў спакутаваны ёю народ. Гэты палітычны механізм гэтак жа стары, як свет. Калі Святая Інквізіцыя пазабівала ўвесь д'ябальскі вывадак на веніках, прытым у асноўным дзявіц, з-за іх адсутнасці сталі асуджаць на кастры чорных катоў, дохлых кажаноў і на канец хатнія венікі (сапраўды!), што выклікала неслабеючае захапленне натоўпу. Кожная ўлада з часам становіцца ідыёцкай, усё ж поўнасцю свядомая таго, што аўтарызацыя яе валадарання робіцца ў вачах людзей, а не ў іх галовах. Усё ж да часу, аднак, калі штораз больш відовішчнае, таму дурнейшае ўладаранне кіраўніцтва зношваецца так хутка, як чалавечая талерантнасць да яго прагрэсуючага ідыятызму. Справа ў тым, што калі ў канцы дзейнасці Інквізіцыі былі спалены на кастры апошні кот у Еўропе і апошні венік з кожнай хаты, лік пацукоў, мышэй і паўсюдны беспарадак сталі настолькі цяжкімі, што папскай булай гэтую ўстанову, толькі па назве святую, афіцыйна ліквідавалі. Толькі што ў Расіі аналаг папы... гэта расійскі народ.

Другая падзея: у скаваным марозам Брэсце сярод асоб пікетуючых будаўніцтва экалагічна недружалюбнага акумулятарнага завода быў... снегавік. Літаральна: балван! Такое прынамсі вынікае з высновы беларускага суда, які палічыў, што быў ён часткай незаконнай акцыі пратэсту. Паколькі снегавік не з'яўляецца юрыдычнай асобай, пакараннем за яго правіну суд павінен абвінаваціць дзяцей, якія, знуджаныя справамі дарослых, або каб пагрэцца, зляпілі балвана з яшчэ неатручанага фабрычнымі дымамі снегу. Межы ідыятызму не былі перавышаны, на шчасце, бо і дзеці не маюць статусу юрыдычных асоб. Такім чынам, суд, прадстаўляючы беларускую дзяржаву, прысудзіў да штрафу адну з маці, што распусна абясцэньваюць эканамічныя рашэнні цяперашняй улады. Але адна тонкасць — з-за няўважлівасці да дзяцей і снегавіка ўлада быццам бы зраўняла іх з сабою. Суд выказаў яе спадзяванне, што з балваной вырастуць толькі балваны, якіх можна разагнаць гарачай вадой з палівачак міліцыі...

❖ **Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Час адчаю

Чым больш жыву, тым менш разумею. Гэтыя жыццёвыя словы праўды ў сённяшнім бурлівым свеце адносім не да філасофска-экзістэнцыяльных пытанняў, але проста да таго ўсяго, што проста складаецца на штодзённае выжыванне. У апошнім часе заўважыў я пастку, у якую наўмысна заганяюць нас, пакупнікоў, вялікія сеткі прадуктовых крам. Шляхам інтэнсіўнай прамоцыі проста прымушаюць кліентаў купляць самыя неабходныя тавары ва ўдвая, ці ўтрая большых аб'ёмах. Калі купіш тры кавалкі масла за раз, заплаціш значна менш, чымсьці за адзін. А на хрэн мне адразу столькі кавалкаў масла, ці чатыры бутэлькі малака, тры пакеты смятаны, восем булачак, чатыры ўпакоўкі туалетнай паперы? Як ва ўсім гэтым разабрацца, калі нават падумаць пра рэальнасць цаны купленага намі прадукту? Значыць, усё становіцца больш умоўным, а не рэальным. Напрыклад, чаму кавалак італьянскага ці ісландскага масла таннейшы за польскі? Такая ж самая вага, а кошт ужо не. Дзе Рым ці Рэйк'явік, але ж мы жывем у малочным ваяводстве, у якім гаспадарчымі флагманамі з'яўляюцца малочныя кааператывы! Маё сялянскае думанне пра свет не ў змозе лагічна растлумачыць такіх супадзенняў.

Значыць, застаецца мне па класічнай схеме стаць ахвярай спажывецкага абдурвання. Адна мая знаёмая з пад'езда прызналася мне, што муж не пускае яе самой на пакупкі з прамоцыяй, бо, як кажуць, на бабах застаецца. Цяпер ходзіць у суправаджэнні мужа або дзяцей. Фактарам, які выдатна дапамагае купляць вялікія колькасці яды, якая не месціцца ў халадзільніку і траціць тэрмін прыгоднасці, у яе выпадку былі выхад на пакупкі з сяброўкамі, якія часта адна перад другою набываюць без памяці ўсялякую «прамацыйную непатрэбшчыну». Барахло лезе ў хату, а грошы ўцякаюць з кішэні. «Абы хутчэй да вясны, — засумавала знаёмая, — тады ад раніцы да вечара буду займацца ў агародчыку і не буду бадзяцца па крамах». Яна — пенсіянерка і для яе вельмі важнае не сядзець у хаце перад тэлевізарам, толькі сустракацца з людзьмі. Менавіта самым простым таго спосабам з'яўляецца выхад па пакупкі. Дасканала гэтую групу грамадства — пастаянных пакупнікоў — прыцягваюць да сябе менавіта прадаўцы.

Добра ведаю такія гісторыі з вясковых назіранняў, калі пажылыя людзі прыходзяць купляць у аўталаўку дзеля таго, каб нешта купіць, абы толькі аўталаўка не адвярнулася ад іх плячыма. Не менш важнай справай з'яўляецца магчымасць пабачыць жывую душу, з якой можна перакінуцца хоць некалькімі словамі. Самота, страх і забыццё — страшэнная хвароба сённяшняга часу. Але, на жаль, такая рэальнасць перакочваецца праз нашы вёскі. Дастаткова пільна ўчытацца ў дэмаграфічную статыстыку нашых гмін. Цікаўлючыся нашымі набалелымі праблемамі, звярнуў я ўвагу на пытанне пажылых людзей у Японіі. Дзе ж беднае Падляшша можа мець нешта супольнае з багатымі японцамі. Аказваецца, можа. Ад двух дзесяцігоддзяў, як інфармуе Бі-Бі-Сі, у Японіі ўзрастае злачыннасць сярод пажылых людзей, якім больш за 65 гадоў. Аказваецца, старэйшыя японцы хочуць ісці ў турму, бо баяцца бяды і адзіноты. У турме не трэба клапаціцца пра яду і кватэру. У 1997 годзе сярод турэмшчыкаў было толькі 5% людзей ва ўзросце звыш 65 гадоў. Сёння складаюць яны ўжо больш за дваццаць адсоткаў зняволеных. Сярод сеніёраў шмат ужо таксама рэцыдывістаў. У ліку 2,5 тысячы прысуджаных старэчаў у 2016 годзе кожны трэці быў ужо пакараны мінімум пяць разоў. Старасць не радасць, — нездарма кажуць у народзе. Але такія роспачныя крокі сведчаць пра радыкалізацыю гэтай праблемы. Дарэчы, у нашай турэмнай сістэме маем шмат падсудных, якія імкнуцца на зіму трапіць у турму. Напэўна на кошт утрымання вязня большы чымсьці хворага ў шпіталі. А з пенсій нашых бабуль і дзядуляў не так лёгка запэўніць апеку ў дамах для састарэлых. Глядзець прыхільным вокам на турэмную сістэму як на месца бяспечнай старасці не снілася яшчэ не так даўно нікому. Час поўнага адчаю.

❖ **Яўген ВАПА**



❖ Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Суседзі

**У нядзелю, 3 сакавіка, у канферэнц-зале Цэнтра праваслаўнай культуры ў Беластоку адбылася чарговая прэзентацыя выставы з цыкла „Наша памяць”. Выставу суправаджаў даклад старшыні Беларускага гістарычнага таварыства прафесара Алега Латышонка. Сабралася поўная аўдыторыя.**

Алег Латышонак прызнаўся, што гісторыку гэтая тэма нецікавая, бо ўжо тут была выканана парадачная гістарычная праца, асабліва адносна капітана Райса «Бурага». На гэтую тэму напісана вельмі добрая кніга Ежы Кулака „Расстраляны аддзел”. Гэта сумленная кніга, аўтар намагаўся ў ёй паказаць праўду. Калі нават яго так глыбока не цікавілі пытанні, якія тут нас цікавяць, то напісаў ён шчыра. Сёння адбываецца сур'ёзная дыскусія не так пра тое, што тады здарылася, як пра маральную ацэнку тых падзей, асабліва ж ці капітан Райс «Буры» можа быць польскім героем. Вядома, што нам усім тут сабраным адказ на гэтае пытанне адмоўны. Мне найважнейшае — чаму гэта зрабіў, бо тут яшчэ ёсць поле для разважанняў: чаму так зрабіў, ці меў загады, ці дзейнічаў самавольна. Бо гэта нейкім чынам змяняе наша гледжанне на тыя падзеі. Рамуальд Райс «Буры» быў заслужаным партызанам Арміі Краёвай. І ўсё, што пра яго ведаем, сведчыць, што быў вельмі добрым партызанам, добрым жаўнерам. Але пасля яе расфармавання ў жніўні 1945 года перайшоў разам са сваім эскадронам да НЗВ. Стаў шэфам ПАС НЗВ Беластоцкай акругі ў званні капітана. У студзені 1946 года аддзел пачаў свой марш з Чорнай-Вялікай, гэтая вёска была аграблена, але ніхто не згінуў. Далей аддзел невядома як прасоўваўся, хаця гналася за ім група пагоні, якая мела для свайго карыстання самалёт. То знаходзілі той аддзел, то губілі. Адно з падраздзяленняў «Бурага» заатакавала Нурэц-Станцыю, там абяззброена сакістаў. У Аўгустынцы застрэлілі солтыса; пасля аддзел пранік у Белавежскую пушчу, а група пагоні страціла след. Камандаванне гэтай групы дапусціла многа памылак і шукалі не там, дзе трэба. Не надта вядома, хто па сутнасці гаспадарыў у глыбінцы. Афіцыйныя структуры былі глыбока насычаны падпольнай агентурай, таму «Буры» добра арыентаваўся ў сітуацыі; магчыма, што тыя вазакі апынуліся там невыпадкова. З Лозіц атрад адправіўся ў бок Гайнаўкі, якую заатакаваў вечарам таго ж самага дня, аднак быў адтуль выцеснены савецкімі атрадамі. Што рабілі саветы ў Гайнаўцы? Гэта былі транспарты, якія вярталіся з захаду, а «Буры» не правёў патрэбнай разведкі, заатакаваў услепую. Гайнаўку ён ведаў, бо раней камандаваў аддзелам лясной стражы і меркаваў, што лёгка расправіцца з мясцовымі сіламі. Пэўна так бы было, калі б не тыя савецкія эшалоны. Савецкія салдаты не вельмі хацелі біцца з «Бурым», бо нават не ведалі, што адбываецца. Камандаванне было ў лазні, але памалу сталі арганізавацца, браць верх і «Буры» быў змушаны адступіць. 29 студзеня 1946 года аддзел «Бурага» спыніўся ў Залешанах. Там застрэлілі маладога чалавека, які адмовіў даць авёс. Пасля «Буры» загадаў жыхарам вёскі сабрацца ў адну хату. Хату падпалілі, але сагнаныя туды людзі здолелі ўцячы; вартавыя «Бурага» стралялі ў паветра; ніхто з тае хаты не згінуў. Аднак стралялі да людзей з іншых падпальваных хат; агулам згінула 16 цывільных асоб, у тым дзве жанчыны і дзявяцёра дзяцей. Раней застрэлілі двух мужчын, у іх ліку партсакратара з Сухавольцаў і солтысавага сына заміж самога солтыса, якога там не было. У той самы дзень падпалілі часць збудаванняў у Вульцы-Выганоўскай і замардавалі двух жыхароў вёскі. 30 студзеня «Буры» апынуўся ў Красным Сяле; там застрэлілі солтыса. 31 студзеня аддзел спыніўся ў Пухалах-Старых; у тамашнім лесе былі замардаваны трыццаць вазакоў-беларусаў; палякаў адпусцілі свабодна. 2 лютага «Буры» заатакаваў Шпакі, застрэлілі пяць мужчын і аднаго смяротна паранілі. Забілі таксама дзяўчыну, якая баранілася перад гвалтам. Хаты памардаваных спалілі, агонь заняў таксама хаты польскіх суседзяў. У той сам дзень часць атрадаў уварвалася ў вёску Зані; хаты праваслаўных падпалілі, а да іх жыхароў стралялі. У Занях загінулі 24 асобы, а 8 былі паранены кулямі. Таксама 2 лютага адзін са ўзводаў спаліў Канцавізну; тут ніхто не згінуў, бо людзі заўчасна пахаваліся. Пасля гэтага аддзел «Бурага» адступіў у Высокамазавецкі павет, а пасля скіраваўся ва Усходнюю Прусію; як ацэньваюць даследчыкі, была гэта вялікая памылка «Бурага», бо ў Высокамазавецкім павеце антыкамуністычнае падполле мела падтрымку мясцовага насельніцтва, а на тэрыторыі Усходняй Прусіі было многа аўтахтонаў або рэпатрыянтаў, якія не вельмі цямілі, што адбываецца; не было такога насельніцтва, якое хацела б падтрымліваць гэты атрад. Там, пасля адной з сутычак, дзе некалькіх жаўнераў «Бурага» згінула, атрад адступіў, а пасля быў расфармаваны.

Цяпер асноўнае пытанне: чаму так сталася? Пацыфікацыя гэта тэрмін, калі нейкая ўлада прабуе падпарадкаваць сабе насельніцтва нейкай тэрыторыі, у канкрэтнасці — вёскі. У рамках пацыфікацыі дапускаецца забойства асоб, якія варожа ставяцца да ўлады; але толькі гэтых асоб, не іх сем'яў ці дзяцей. У рамках пацыфікацыі можа ўваходзіць спаленне вёскі; гэта вельмі суровы сродак, які, аднак, яшчэ месяцца ў рамках паняцця пацыфікацыі. Але падпал вёскі і мардаванне ўсіх жыхароў нельга назваць пацыфікацыяй. «Буры» цвердзіў, што атрымаў загад ад камандавання акругі спаліць вёскі Зані і Шпакі, а Залешаны спаліў сам за варожае стаўленне да яго атрада; пасля ад гэтага адракаўся.

Камандзір беластоцкай акругі НЗВ 24 жніўня 1944 года выдаў загад спацыфікавання ў канцы верасня паўднёва-ўсходняй часткі Бельскага павета, як рэванш за варожае стаўленне да канспіратыўнай справы. Паколькі ПАС не было яшчэ сарганізаванае, не было каму выканаць гэтую пацыфікацыю, яе адтэрмінавалі на пазнейшы час. Але 8 снежня 1945 года адбылася нарада камандавання акругі, дзе таксама згадвалася пра беларускае насельніцтва; пратакола з гэтай нарады няма. Па паказаннях аднаго з удзельнікаў вядома, што гаварылася пра беларусаў, але меркаванні былі падзелены — былі ўдзельнікі, якія за беларусаў заступаліся, сцвярджаючы, што гэтае насельніцтва можа яшчэ быць саюзнікам. Затое «Буры» выказваўся вельмі варожа пра беларусаў, ды не толькі: меў бадай заявіць, што на тэрыторыі Літвы, Украіны і Беларусі не павінна быць іншых нацыянальнасцей апрача польскай. Ёсць яшчэ адно выказванне «Бурага» са следства, у якім ён прызнаўся, што спаліў гэтыя вёскі — але не прызнаўся, што памардаваў жыхароў — таму, што насельніцтва гэтае не рэпатрыявалася ў СССР. У Шпаках пасля адступлення атрада «Бурага» знойдзена была лістоўка, у якой загадвалася, каб беларускае насельніцтва цягам 14 дзён пакінула польскую тэрыторыю, бо ў іншым выпадку будзе ліквідавана. Мне здаецца, што калі «Буры» атрымаў нейкія загады, то былі гэта загады таго, што сапраўды называецца пацыфікацыяй, значыць, маглі яны датычыць спалення вёсак і селектыўных экзекуцый. Затое нішто не паказвае, што атрымаў ён загад такой жорсткай трактоўкі жыхароў тых вёсак; чаму так зрабіў — пэўна ніколі не даведаемся, бо ж не пакінуў мемуараў, а калі б і такія асталіся, то сумняваюся, ці напісаў бы там праўду.

«Буры», нечакана сабе, праваліўся ў Гайнаўцы, бо захоп Гайнаўкі быў бы сапраўднай дэманстрацыяй сілы. Тым часам у Гайнаўцы быў пабіты і быў ім і далейшымі падзеямі разлютаваны.

Даволі непрыемны факт, пра які мала згадваецца, гэта суседзі — палякі. Бо калі ў Залешанах магло дайсці да нейкай эскалацыі нешчаслівых выпадкаў і злосці «Бурага», то ў іншых вёсках нельга гаварыць пра дзейнічанне ў нейкім афекце, гневе — гэта была прыгатаваная акцыя. Мясцовыя палякі ведалі, што яна адбудзецца і, што важнае, не папярэдзілі сваіх беларускіх, праваслаўных суседзяў. Вынеслі яны дабро з хат, бо была небяспека, што яны могуць заняцца ад агню. Забойцы ведалі, каго будуць забіваць і чые хаты будуць паліць. Не маглі гэта быць людзі толькі з Віленшчыны, гэта напэўна мясцовыя паказвалі мішэні. Маем рэляцыю, як каталічка ў Занях выдала праваслаўную суседку, якая хацела прыкінуцца каталічкай, а гэта ж магло ўратаваць ёй жыццё. І калі гаворым пра суседзяў, то тыя падзеі набіраюць іншае вымярэнне. Бо сам «Буры» і яго злачынныя дзеянні з'яўляюцца толькі сімваламі, бо ж тыя восемдзесят асоб, гэта не так ужо і многа ў параўнанні з тымі разнямі, якія адбываліся ў час Другой сусветнай вайны, напрыклад на польска-ўкраінскім памежжы. Гэтыя ахвяры нешматлікія. І калі б не тое, што цяпер «Бурага» ўзводзяць у героі, то, пэўна, мы б так не пратэставалі. Маршы ў Гайнаўцы і воклікі „«Буры» наш герой” пабудзілі нас задумацца над тым, што дзеецца і да рэакцыі...

Можна гаварыць пра этнічную чыстку, бо пацыфікацыя — гэта назва неадэкватная — так папраўдзе была гэта этнічная чыстка. Яна мела ўсе прыметы этнічнай чысткі, бо мардавалі людзей паводле нацыянальных і верніцкіх крытэрыяў, без аглядкі на пол і ўзрост. Забойцы ясна паказвалі, каго намагаюцца выгнаць. Сам «Буры» гэта пацвердзіў, пры чым трэба заўважыць, што не быў ён катаваны; ён прабаваў ратавацца, звальваў віну на сваіх падкамандных, выдаў свайго намесніка «Рэкіна»; таму не дзіў, што да мардавання не прызнаваўся, але да выганяння — так.

Яшчэ адзываюцца галасы, якія бароняць «Бурага» такім чынам, што быццам нічога не даказана, паказанні паходзяць з камуністычнага суда, была ў вёсках нейкая перастрэлка, нехта згінуў, а папраўдзе нічога пэўнага не вядома, сведкі блытаюцца, да таго ж што тыя сведкі вартыя, мяняюць свае паказанні. Але тут не маем дачынення, так, як напрыклад, у Верхавінах ці іншых вёсках Холмшчыны, дзе не было праведзенай эксгумацыі, невядомы дакладны лік ахвяр, падаюцца неверагодныя лікі. У выпадку «Бурага» можна спрачацца пра адну-дзве асобы больш ці менш, аднак усе па сутнасці яго ахвяры вядомыя па імені і прозвішчы, ведаем дзе яны пахаваны. Такое стаўленне справы гэта гістарычны нігілізм. Чым жа яшчэ мы можам даказаць, што гэта па сутнасці адбылося. Калі пры такім агромным доказным матэрыяле нехта сцвярджае, што нічога невядома, то я магу толькі развесці рукі.

Я супраць непасрэднага рэагавання на дзеянні гларыфікатараў «Бурага». Мы павінны дзейнічаць згодна ўласным перакананням і магчымасцям. Таму запусцілі мы, Беларускае гістарычнае таварыства, праект „Наша памяць”. Трэба спісаць тое, што маем — помнікі. Шмат якія з іх трэба абнавіць, выправіць. Мы рашылі пачаць з ахвяр «Бурага». Ахвяр мноства. Бачу ў зале спадара Масальскага, які ў сваёй выдатнай кнізе пералічыў тыя ахвяры. А паколькі «Буры» з'яўляецца сімвалам, то мы рашылі пачаць менавіта з яго. Улетку мінулага года правялі мы тры экспедыцыі па мясцовасцях: Лозіцы — Залешаны, пасля Залешаны — Пухалы-Старыя і на канец Малешы — Зані. Да таго ж дапоўнілі гэта кверэндай у дакументах ІНП.

Алег Латышонак дадаў, што з ліку трыццаці тысяч выселеных у СССР толькі палова выехала па ўласным жаданні, а палова, г.зн. каля пятнаццаці тысяч, пакінула родныя мясціны ў выніку тэрору. Ахвяр многа, і мы пачалі іх ушанаванне з ахвяр «Бурага», бо гэта найбольш выразны сімвал таго сілавога запалохвання беларускага насельніцтва.

Было з залы пытанне пра камуністычныя сімпатыі беларускага насельніцтва. Ці ў Залешанах была камуністычная ячэйка і ці віталі там саветаў у 1939 годзе. Алег Латышонак адказаў, што не здзівіўся б, калі б у Залешанах была такая ячэйка і што там маглі вітаць саветаў. А калі нават і былі там камуністы, то гэта не апраўдвае мардавання жанчын і дзяцей. А калі пра камуністаў — спадар Масальскі згадваў пра ахвяры «Гузара», то амаль усе яны былі палякамі. І далучэнне да камуністычных структур абазначала рызыкаванне жыццём. Прыгадаў ён таксама, што на схіле ПНР Польшча была больш скамунізаваная чым БССР, бо тут быў большы адсотак партыйных. Гэта вядомыя з псіхалогіі выкрутасы, быццам камунізавалі Польшчу беларусы.

Было таксама пытанне пра шанаванне «Бурага» і Бандэры. Бандэра афіцыйна прылічаны ва ўкраінскія героі, «Буры» такога гонару ў Польшчы не мае і трэба спадзявацца, што не будзе мець. Пакуль ушаноўвае яго толькі жменька прыхільнікаў.



Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# XXVI Фестываль. Мы спяваем разам

Семдзесят удзельнікаў народных калектываў (з агульнага ліку 72) з Падляшша сабраліся ў беластоцкай «старой» філармоніі па вуліцы Падлеснай. Цэнтральны адборачны канцэрт XXVI выпуску Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2019» (як конкурс гэта 50 выданне), арганізаваны Беларускім грамадска-культурным таварыствам, сабраў сотні аматараў роднай песні, якія часам у сямейнай урачыстай гронцы набылі квіткі ў філармонію, а раней — на адборачных аглядах. На сцэне выступілі, спяваючы па адной песні, пераможцы песенных павятовых аглядаў, якія прайшлі ў Сямятычах і Дуброве-Беластоцкай, а пасля ў Гайнаўцы, Орлі (у новым будынку мясцовага ГАКа) і ў Беластоку. Такія агляды БГКТ пачало арганізаваць у 1970 г. У палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя былі яны перайменаваны ў Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня» (сёлета ўсе ўдзельнікі — з Падляшша). Ян Сычэўскі, старшыня БГКТ, з радасцю падкрэсліў: «Беларуская песня сярод беларускай нацыі на Беласточчыне жыве і развіваецца».

— Збірае нас у гэтай зале адно — любоў да роднай песні і беларускай культуры, — адзначыў, пачынаючы мерапрыемства, намеснік старшыні БГКТ Васіль Сегень. — Пераможцамі фестывалю можна ўжо назваць усіх, хто выступіў, хто прыняў удзел у нашым сёлетнім фестывалі. Гэта праява вялікай любові да беларускай песні, беларускай музыкі, і вялікі дзякуй усім выканаўцам за гэтую любоў.

Лаўрэаты — пераважна з першых месцаў у сваіх катэгорыях — прынялі ўдзел у гала-канцэрце ў Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку 1 сакавіка.

Зацікаўленасць фестывалем не меншае, як у выканаўцаў, так і гледачоў, залы ў час як раённых, так і цэнтральнага адбору былі паўнюткія. Візуальна ён сціплы па сцэнаграфіі, адзіная яго аздоба — і старэйшыя, і маладыя выступоўцы, як каляровыя матылі на сцэне ў беларускіх нацыянальных строях або ў сапраўды ў гала-ўборах. Намеснік БГКТ Васіль Сегень падкрэсліваe, што бюджэт на фэст не вельмі вялікі, а бюро фестывалю — толькі некалькі асоб, якія выконваюць аграмадную працу. Бюджэт фестывалю складае датацыя Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока.

Фестываль не мае ўжо асобнай катэгорыі аўтэнтычнай фальклорнай песні. Але фальклорная песня гучыць у выкананні спевакоў, якія, здаецца, неўміручыя на Падляшшы. Пажылыя жанчыны і мужчыны пяюць у працярэбленых векам калектывах старадаўнія тутэйшыя, і супольныя для славян песні, якія ўвайшлі ў беларускі абсяг. Сучасны песенны рэпертуар часта пазычаны з-за ўсходняй мяжы. Але трапляецца новая аранжыроўка, новыя тэксты на словы аўтараў з Беласточчыны, у тым ліку „белавежцаў", пачынаючы ад славутага гімна Беласточчыне Алеся Барскага.

— Гэта цешыць, што паяўляюцца новыя тэксты, новая музыка, — сказала Галена Шчыгол, кіраўнік сямятыцкага «Оморфосу». — Радуе таксама прысутнасць на сцэне таленавітых маладых выканаўцаў, ліцэістаў і студэнтаў. Гэта найлепшы доказ, што беларуская песня на Беласточчыне гучаць будзе яшчэ доўга.

Удзельнікі розных узростаў прадставілі на суд журы народныя і эстрадныя, даўнейшыя і сучасныя на беларускай мове песні. Вераніка Пташынская з белліцэя ў Гайнаўцы: «Я расла з маленькага ўзросту пры гэтых песнях. Спяваю ўсё сваё жыццё беларускія песні. Цягне да іх». Удзельніца Іза Карчэўская з Гайнаўскага дома культуры: «Я думаю, мы тутэйшыя, і Беларусь — наша Айчына таксама, як Польшча. Ахвотна выступаем на гэтым фестывалі».



„Росы" з Вясковага дома культуры ў Рыбалах



«Сувенір» з Беластока. Музыка і словы Янкі Хохі (першы злева)



Трыо Анна Гуль, Патрыцыя Буркевіч і Марыя Мартынюк з Універсітэта ў Беластоку

**ВЫНІКІ XXVI ФЕСТЫВАЛЮ «БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 2019»**

Прафесійнае журы пад кіраўніцтвам Міхала Дрынеўскага, выслухаўшы ў час шматгадзіннага канцэрта сямідзесяці выканаўчых адзінак, выставіла наступную ацэнку.

**СПЕВАКІ А КАПЭЛА.** ***Салісты*** **— І месца**: Марыя Врублеўская з Гарадка і Вераніка Федарук з Бельска; **II месца**: Ян Шыманюк з Семяноўкі, Галена Датчук з Машчонай-Каралеўскай, Вера Нічыпарук з Маліннік; **III месца**: Кацярына Ціханюк са Збуча, Валянціна Кажанеўская з Супраслі. ***Дуэты, трыо і квартэты*** **— І месца**: «Трыяда» (сёстры Анна, Уршуля і Юстына Садоўскія), трыо Кацярына Сянкевіч, Сафія Усціновіч і Ала Каменская; **II месца**: браты Адрыян і Цэзар Данілюкі з Міхалова, квартэт «Навіна» з Машчонай-Каралеўскай. ***Вакальныя ансамблі*** **— Гран-пры:** „Світанак" з Беластока. ***Хары (мяшаныя)*** **— І месца**: «Загадка» з Супраслі; **II месца:** хор Дома праваслаўнай культуры з Бельска-Падляшскага. ***Хары (аднародныя)*: II месца:** «Васклікнавеніе» з Гайнаўкі.

**СПЕЎ З ІНСТРУМЕНТАЛЬНЫМ АКАМПАНЕМЕНТАМ.** ***Салісты.*** **І месца:** Ніна Шыманская з Орлі, Юстына Ляўчук-Майданчык з Бельска; **III месца**: Вяслава Ваўрыновіч з Бельска. ***Дуэты, трыо, квартэты***. **І месца**: жаночы квартэт «Васілёчкаў» з Бельска, жаночы квартэт «Чыжавян»; **II месца:** дуэт «Лайланд» з Грабоўкі, мужчынскі квартэт «Чыжавян», «Немаральная прапанова» з Беластока; **III месца**: дуэт Люба Гаўрылюк і Ала Каменская, дуэт Ніна Шыманская і Валянціна Арэшук; **вылучэнне:** квартэт з Мора.

***Вакальныя калектывы:*** **І месца:** жаночая група «Каласкоў» з Беластока. **II месца:** «Рэчанька» з Козлікаў, «Расспяваны Гарадок», жаночая група «Мікрона» з Беластока, жаночая група «Цаглінак» са Старога Ляўкова. **III месца**: «Каласкі» з Беластока, калектыў «Маланка» з Бельска. **Вылучэнне**: «Арляне» з Орлі, мужчынская група «Цаглінак» са Старога Ляўкова.

***Хары (мяшаныя)*: І месца:** «Крыніца», «Мікрон» з Беластока; **II месца:** «Васілёчкі» з Бельска, «Цаглінкі» са Старога Ляўкова; **III месца: «**Рэха Пушчы» з Гайнаўкі.

***Хары (аднародныя)*: II месца:** жаночая група «Васілёчкаў» з Бельска; **III месца:** жаночая група «Рэха пушчы» з Гайнаўкі, «Куранты» з Бельска.

**СПЕЎ ПАД ФАНАГРАМУ.** ***Салісты.*** **І месца:** Марыя Мартынюк з Бельска, Ізабела Карчэўская з ГДК у Гайнаўцы; **II месца:** Кацярына Дружба з ГДК у Гайнаўцы; **III месца:** Аляксандра Лажэцкая з Бельска. ***Дуэты, трыо, квартэты:*** І месца: трыо Анна Гуль, Партыцыя Буркевіч, Марыя Мартынюк з Універсітэта ў Беластоку, трыо «Сувенір» з Беластока. **II месца:** «Спявай душа» з Гарадка (Аляксандра Яроцкая, Цэзар і Адрыян Данілюкі).

***Вакальныя калектывы.*** **І месца:** Студыя ГДК у Гайнаўцы, «Ад Рэм» з Дубровы-Беластоцкай, «Оморфос» з Сямятыч; **II месца: «**Фермата» з Орлі; **III месца:** «Вэрвочкі» з Орлі, «Росы» з Рыбалаў, «Знічка» з Гайнаўскага белліцэя.

— Мы спяваем разам, усім, — адзначаюць спевакі з «Сувеніра». — «Мы спяваем удзень і ноч». Як абяцалі, сёлета зайгралі таксама на ёлках і балях у Доме апекі ў Бабровай і ў Цэнтры праваслаўнай культуры. У час забавы адчувалі, што з кожным тактам усе, што нас слухалі, маюць яшчэ больш энергіі і сілы, больш чым мелі калі-небудзь! У момант мы адчувалі, што і нам па васямнаццаць! Зрываліся да танца тыя, хто ніколі не танцаваў, падпявалі тыя, хто раней не спяваў. Чаго ж больш трэба — радавацца пры роднай песні! Вы дадалі нам крылаў на наступныя гады! Да сустрэчы!

— Калі сыходзіш са сцэны пры акампанеменце несціханых апладысментаў, паверце нам, адчуваем, што музыка гэта штосьці неверагоднае, — сказалі спевакі з гурта «Сувенір» Янка Хоха і Андрэй Жамойда пасля гала-канцэрта, калі лаўрэатаў першых месцаў сёлетняга Агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 2019» пачулі — у пятніцу, 1 сакавіка, падчас урачыстага гала-канцэрта, які традыцыйна адбываецца ў Падляшскай оперы і філармоніі па вуліцы Адэскай, 1. — Цяпер гэта мы б'ем «брава!» цудоўнай публіцы, якая сабралася падчас канцэрта. У нас тут аграмадны патэнцыял у выглядзе ангажаваных усіх калектываў, дуэтаў, трыо і гэтак далей, якія прымалі ўдзел у адборах у паветах Падляшша і раней у сябе ў гміне, напрыклад, у Гарадку. Не без прычыны на пачатку канцэрта крыкнулі мы «РАЗАМ!» Да хуткага пабачэння! Мы спяваем усім. І вельмі дзякуем Віктару Стахвюку, які цярпліва больш за трыццаць гадоў падтрымлівае нашы спробы пісання тэкстаў да нашых песень.



# Заглянуць у вочы сучаснай вёскі

Пра выстаўку **Данеля Рыхарскага «Страхі»**, якая 15 лютага адкрылася ў варшаўскім Музеі сучаснага мастацтва, напісалі ўсе большыя польскія часопісы. Выстаўка ўзбуджае таксама шмат спрэчак, таму што звяртаецца да ідэалогіі ЛГБТ. Для мяне матывацыяй, каб выбрацца на адкрыццё выстаўкі, быў «Помнік мужыку» і магчымасць сустрэчы з мастаком, які так пазітыўна ўскладніў вобраз сучаснай вёскі.

— Жыхарам гарадоў здаецца, што тое, што ім падабаецца ў гарадской галерэі, будзе таксама падабацца на вёсцы, або што гэта павінна падабацца на вёсцы, а такога не бывае, — гаворыць мастак. — У Польшчы мала прыкладаў мастацтва, якое ствараецца пры супрацоўніцтве з жыхарамі вёскі. Мала добрых прыкладаў, таму што вельмі часта гэта канчаецца на каланізатарскіх дзеяннях, значыць: «Мы прывозім вам наша мастацтва і вам гэта мае падабацца». Не, гэта зусім іншае асяроддзе.

Упершыню пра мастака Данеля Рыхарскага пачула я ў 2016 годзе, калі абвясцілі намінаваных да ўзнагароды «Пашпарт „Палітыкі”». У артыстычных колах ці ў людзей, якія рэгулярна адсочваюць мастацкія цікавінкі, Рыхарскі быў ужо добра вядомым мастаком. Пра яго стала гучна, калі ў супрацоўніцтве з жыхарамі сваёй роднай вёскі на сценах старых хат, стадолаў і аўтобусных прыпынках зрабіў муралі, якія прадстаўлялі гібрыдныя жывёлы. Тады яго мастацтва пачалі называць вясковым стрыт-артам. Рыхарскі стварыў таксама «Помнік мужыку», які наведаў ужо большыя гарады, такія як Кракаў, Люблін ці Варшаву, але, на думку мастака, ён найбольш прамаўляе да жыхароў вёсак.

— На вёсках ён быў вельмі добра адчытаны, — кажа Рыхарскі. — Мужык з тварам Хрыста Фрасаблівага сядзіць на канцы — ніхто зараз не можа прадаць малака і г.д. Мне вельмі стала прыемна, калі «Помнік мужыку» пачалі запрашаць на дажынкі — яго пачалі выкарыстоўваць у вясковых традыцыях.



«Помнік мужыку» мастак прысвяціў солтысу вёскі Куруўка (**Kurówko**), што ў Мазавецкім ваяводстве, у якой выхаваўся. Яе жыхары да гэтага часу працуюць на ролі, вядуць так званыя невялікія сямейныя гаспадаркі.

— Польскія земляробы ніколі не хацелі ствараць прадпрыемстваў і стаць, як хацеў бы Еўрасаюз, фермерамі, — сказаў мастак. — Яны аддавалі перавагу меншым участкам, з якіх можна заспакоіць патрэбы сям'і. Куруўка на самой справе было такім першым месцам, да якога я вярнуўся пасля заканчэння школы. Гэта было прыязнае месца.



Выстаўка «Страхі» прыцягнула ў Музей сучаснага мастацтва сотні людзей — не толькі вядомых дзеячаў культуры і славутых журналістаў, але таксама сваіх беларусаў, напрыклад, Дарка Жукоўскага. Наогул выстаўка прыцягнула людзей з розных асяроддзяў. Гэта зразумелае, паколькі сам мастак супрацоўнічае з сялянскімі таварыствамі, рэлігійнымі кружкамі ці актывістамі ЛГБТ.

— Ён з жыхарамі Куруўкі і ваколіц працуе ўжо некалькі гадоў. Маем такое ўражанне, што гэтыя ўсе складаныя пытанні, якія тычацца сексуальнай тоеснасці, не маглі з'явіцца на самым пачатку, — сказаў куратар выстаўкі Шыман Мальборскі. — Гэта свайго роду рапарт з адзінаццацігадовай мастацкай дзейнасці Данеля. Па-першае, шукаем новых моў для апісання рэчаіснасці, якія расказвалі б мацней аб гэтым, што маем за акном, аб супярэчных, пасвараных тоеснасцях.



http://wyborcza.pl

**Данель РЫХАРСКІ** — артыст, актывіст, творца вясковага стрыт-арту. Жыве і працуе ў роднай вёсцы Куруўка і ў Кракаве. У 2005-2009 гадах штудзіраваў графіку на Факультэце мастацтваў Педагагічнага ўніверсітэта імя КЭН у Кракаве, дзе цяпер выкладае на Кафедры мультымедыяў. У 2012 годзе атрымаў званне «Культурыст года», прысуджанае III праграмай Польскага радыё. У 2016 годзе стаў пераможцам «Пашпарта „Палітыкі”» ў галіне выяўленчага мастацтва.

Выстаўка ўзяла назву ад апошняга праекта, які Данель Рыхарскі рэалізаваў у мінулым годзе. Тады ў Куруўку паўстала дваццаць адзін розных крыжоў, апранутых у рэчы, якія дасылалі яму людзі ЛГБТ, якія калісьці спазналі дыскрымінацыю.

— Яны нагадваюць страхі, пудзілы, якімі сяляне палохаюць дзікоў. Нагадваюць праваслаўную Гару крыжоў Грабарку, і гэта выраз маёй веры. Веры без прыгнёту, якую нясе рэлігія, — сказаў мастак. — Я не захапляюся вёскай, гэта дрэннае акрэсленне — я там нарадзіўся. Я ведаю, што вёска вельмі прыгожая, але і цяжкая. На вёсцы таксама шмат праблем. Тут жыццё складанае, перш за ўсё для маладых людзей.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## Хто дапаможа сініцам, сойкам і снегірам

Нашы крылатыя сябры зімой у патрэбе. Ім нялёгка знайсці сабе каларыйны корм. Галодныя птушкі ў вялікі мароз хутка замярзаюць. Не забылі пра іх толькі некаторыя дарослыя жыхары ціхіх вёсак і вёсачак, у тым ліку Новін і Плянты ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Яны жылі і жывуць на вёсцы, зімой дапамагалі птушкам — як былі дзецьмі, так і цяпер. У краме ў Плянце пачалі больш купляць саланіну. Два гады таму прадавалі спецыяльны корм для птушак з зярняткамі сланечніку, льну і іншых раслін у застылым тлушчы.

Птушкі хутка знайшлі свае зімовыя кармушкі на дрэвах у агародчыках. На панадворках з'явіліся найперш шустрыя вераб'і і неўзабаве адважнейшыя сініцы, сойкі і дзятлы. Снегіры і амялушкі прыляцелі пад сам вечар. Ні варон, ні сарок я не бачыў. Не бачыў іх тут і два гады таму. Дадам, што ў плянтаўскім лесе завялося многа каршуноў (ястрабаў). У прыродзе нешта памянялася. Зараз зімой у сярэдзіне дня яны палююць на курэй на панадворках.

Цяпер вясковыя людзі сталі менш цікавіцца акружаючай іх прыродай, птушкамі і звяркамі. Зімой то ўжо зусім мала. Сядзяць, як некаторыя, ад раніцы да ночы перад тэлевізарамі дый годзе. Яшчэ нервуюцца, калі хто зойдзе ў хату, калі якраз „ідзе” тэлесерыял, які яны аглядаюць. Моў, ім не перашкаджай. Наведваць мне, як солтысу, было трэба па справах. Зараз сяляне-пенсіянеры не гадуюць ні кароў, ні куркі. А што там падумаць ім пра іншую птушку. Хай сабе галодная замярзае. Я і носа з хаты не высуну. Маю ж прыбіральню-выходак дома.

Дзве птушыныя сталовыя „адкрыла” наша шматгадовая чытачка Вера Клімюк з Плянты — на грушы і на яблыні. Птушкі дзяўбуць сабе нясоленую саланінку са шкуркай. Вады не трэба ім выносіць з дому. Не замерзлі рэчкі Нарвы, Нараўка, Баброўка і іх прытокі ды вялікае вадасховішча Семяноўка.

У Новінах „сваіх” дзікіх птушак цяпер падкормлівае ніўскі верны чытач Канстанцін Ярашук. Яго пастаянныя крылатыя госці — сініцы, дзятлы і іншыя лясныя птушкі. У Новіны — гэта я бачыў — прылятаюць таксама сарокі. **(яц)**

## Партрэт з календаром „Нівы”

16 студзеня гэтага года зайшоў я падстрыгчыся да цырульніцы ў Нараўцы Гайнаўскага павета. У гэтай найбольшай вёсцы ў цэлай Нараўшчыне цырульня адна. Падстрыгае спадарыня Багуслава, жонка лістаношы Юркі Дрозда, які прадае найбольш у гміне „Нівы” з беларускім календаром.

Я агледзеўся па памяшканні і адразу кінулася мне ў вочы, што на сцяне ў цырульні павесілі знаёмы ўжо мне беларускі каляндар „Нівы” на 2019 год. Каляндар вісіць у вялікай ладнай рамцы са шкляной шыбай. Каб час чакання ў чарзе не доўжыўся, тут можна заглянуць у каляндар і даведацца, якія набліжаюцца святы ды ўвогуле які зараз чарговы дзень тыдня. Бывае ж, што неаднойчы, як кажуць, пагубіш дні. Для мяне, што ні кажы, партрэт з ніўскім календаром — прыемная неспадзеўка. **(яц)**




Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Віншуем «Гавэнду»!

Каларытны конкурс расказчыкаў «Беларуская гавэнда» — юбіляр. Яму дваццаць гадоў. За гэты адносна кароткі час ён стаў трывалым элементам беларускай культурнай прасторы. На гэта спрацаваў энтузіязм настаўнікаў і вучняў. Кожны год, калі набліжаецца конкурс, у такіх школах як у Нарве, вялікае ажыўленне. Тут як нідзе зжыліся з «Гавэндай» і ў доказ любові з'яўляюцца новыя зоркі. Да гэтай пары з Нарвай асацыявалася імя Крыстыяна Паскробкі, які ўжо некалькі гадоў запар прадстаўляе Гайнаўскі беліцэй. Цяпер Нарву расслаўляюць новыя зоркі: браты Марк і Уладзік Кутузавы. А ўслед за імі ступаюць малодшыя, як незвычайная Аліўка Жэпко. Падобны працэс адбываецца ва ўсіх школах Гайнаўскага павета.

Конкурс, дзякуючы высокім патрабаванням, збірае адмысловы, прыгожы круг дзяцей і моладзі. Тут як агню пазбягаюць масавасці, у якой губляецца творчы дух.

Сёлета выступіў 31 расказчык, і гэта, калі глядзець праз прызму мінулых гадоў, надта шырокая кампанія.

— Гавэнда гэта жывы конкурс, які патрабуе думання, — кажа Янка Карчэўскі, ініцыятар і душа конкурсу.


Крыстыян Паскробка

Сапраўды, сярод аповедаў — жывыя здарэнні і прыгоды з жыцця вучняў. Частка конкурсных выступленняў гучыць на гаворках вёскі, адкуль вучні. Яны не толькі захоўваюць родную мову ад забыцця. Разам з жывымі аповедамі ствараюць пачуццё супольнасці сярод навучэнцаў беларускай мовы.

Гавэнда — гэта не толькі акцёрска-літаратурны выклік. Яны спрычыняюцца да фармавання тоеснасці. Расказчыкі памятаюць свае выступленні гадамі, ды дзякуючы гэтаму глыбей, чым апошнія, адчуваюць мілагучнасць роднай мовы.

Ад імя рэдакцыі віншуем «Гавэнду» і нястомнага Янку Карчэўскага! Зычым Вам новых талентаў, чарговых юбілеяў і шчодрых спонсараў.

Зорка



# Герб Пагоня — размалюйце!

Герб Пагоня — галоўны нацыянальны і гістарычны сімвал беларусаў.

У аснове — выява рыцара на белым кані на чырвоным фоне. Вершнік трымае ў паднятай правай руцэ меч, у левай — шчыт з залатым шасціканцовым крыжам, які беларусы называюць Крыжам Еўфрасінні Полацкай. З левага боку ў вершніка другі меч, з-пад сядла звісае трохканцовая вупраж.

Пагоня — сімвал адвагі і неўміручасці Беларусі.

## УВАГА КОНКУРС! № 10-19

**Дзе гарады без людзей, а рэкі без вады? (На г......, на к....)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 24 сакавіка 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 6: лялька.**

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Клаўдзія Нікапчук, Оля Хіліманюк з Нарвы, Аляксандра Якімюк з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Оля Дудзіч, Ігнат Дудар, Ася Пяткевіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Аляксандра Галубовіч, Паўліна Лянкевіч з Шудзялава. Віншуем!



# Унукам

15 лютага 2019 г. у бельскай «тройцы» адбылася сустрэча з унукам Ларысы Геніюш — Міхалам Геніюшам і з укладальнікам новай кніжкі паэткі Глебам Лабадзенкам (журналістам, культурным дзеячам з Мінска). Сустрэцца з імі мелі магчымасць вучні класаў VIII «а» і III «а» гімназіі.

У кніжцы «Унукам. Вершы і лісты без цэнзуры» знаходзяцца вершы, якія Ларыса Геніюш дасылала сваім унукам. Кніжка паўстала таму, каб іншыя пачулі бабуліну цеплыню і тое, што бабуля хацела пераказаць унукам.

Я змагла паставіць некалькі пытанняў нашым гасцям.

Вікторыя Гаць: — Колькі часу Вы складалі гэтую кніжку?

Глеб Лабадзенка: — Праца ішла так больш-менш два гады. У 2016 г. мы пачалі яе складаць, а выйшла яна на Каляды. Я вельмі цешуся, бо для мяне гэта вельмі цікавая справа: сядзець у архіве і бачыць рукапісы і малюнкі паэтэсы.

Вікторыя Гаць: — Ці Вы маеце такі верш, які найбольш захаваўся ў сэрцы?

Міхал Геніюш: Многа такіх вершаў, якія асталіся ў маім сэрцы, але думаю, што верш «Лес» найбольш мне запамятаўся.

Вікторыя Гаць: — Вы любілі ездзіць да бабулі?

Міхал Геніюш: — Я заўсёды чакаў, калі будзе можна паехаць да яе. Гэта было для нас вялікае свята. А нам давалі дазвол толькі раз на два гады.

Вікторыя Гаць: — Як Вы акázаліся ў Беластоку?

Міхал Геніюш: — Прыехаў я сюды з мамай, бо мой бацька студыяваў тут.

Вікторыя Гаць: — Ці Ваша любоў да звяроў выводзіцца з бабуліных малюнкаў?

Міхал Геніюш: — Не, наадварот. Малюнкі выводзяцца ад любові да звяроў. Мая бабуля малявала мне тое, што мне падабалася.

**Вікторыя ГАЦЬ,**
бельская «тройка»



(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Малако і вада

Былі ў адной удавы сын і дзесяць коз. Кожнай раніцы хлапец выганяў казуль на папас, а маці даіла іх і прадавала малако. Аднойчы падгледзеў сын, як маці зачарпнула сабе кубак малака, а на гэтае месца падліла кубак вады.

— Што ты робіш? — абурыўся хлапец. — Грэх прадаваць ваду замест малака.

— Грэх гэта насіць дурную галаву на плячах, — адказала маці. — Я клапачуся, каб прыдбаць крыху сыру і масла на зімку. А так без прыпасаў прыйдзецца зубы на паліцу пакласці!

— Кажуць, ад крадзенага не патаўсцееш... — пачаў сын.

Маці, аднак, ведала сваё, яна са спачуваннем зірнула на сына і сказала:

— Не табе вучыць мяне жыцця...

Аднойчы, калі хлапец пасвіў статак, нахлынулі цёмныя хмары з маланкамі і перунамі, зваліўся густы лівень. Вада заліла луг, а пасля ірванулі патокі. Глядзіць пастушок: ужо занесла ў патокі яго козачак, паплылі яны, бедныя, з вадой і ў рэшце рэшт апынуліся ў рацэ.

Прыбег ён дахаты з адной дубінай у руках.

— А дзе козы? — здзівілася маці. — А чаму так рана вярнуўся ты з папасу дахаты?

А ён у адказ прадэкламаваў ёй:

— Маці, гэтыя кубкі вады, якія ты падлівала ў малако, разліліся па ўсім лузе, пасля яны сцякліся ў многія патокі, а тыя патокі захапілі нашых козачак і занеслі ў раку ды іх патапілі.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Максім Танк

## Вырай

Зелянеюць зноўку лазнякі,
А ў вясеннім небе — крык птушыны,
Крык птушыны — голас жураўліны
Над палямі, над прасторамі ракі.

Небасхіл ахоплены зарой.
І з крыла у важака старога
Падае на чорныя разлогі,
Дзівамі іграючы, пяро.

Вось яно кранула хмар граду —
І яны вясёлкамі заззялі;
Зачапіла вербаў чараду —
І яны уміг закрасавалі;

А калі апала на ваду, —
Пасінелі, зашумелі хвалі,
Нерастуючы, пайшлі самі па дну,
І сузор'і лілій паўсплывалі...

Кажуць, каб злавіў тое пяро,
Казачнікам стаў бы, чарадзеем.
Кожнаю вясеннюю парой
Я выходжу з тайнаю надзеяй

На шляхі і на прасторы ніў,
Дзе губляе вырай свае пер'і...
Хоць даўно мінулі тыя дні,
Калі я ва ўсе прыкметы верыў.

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 6-2019:**

Малпа, член, нагода, ці, тыгр, не, зубр, ты луг, арол, банк, мы. Шчасце, мена, зуб, на, туга, грыб, грак, лідар, том, ар, крылы.

Узнагароды, **святочныя наклейкі**, выйгралі **Якуб Васільчык** з Нараўкі, **Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Дам'ян Карнілюк, Ася Філіманюк** з Бельска-Падляшскага, **Кацпэр Грынчэль, Крыстыян Мойсак, Зося Якімец** з Залук, **Марына Місяюк** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, **Мая Тапалянская** з Нарвы, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава, **Ліліяна Пазьняк** з Шудзялова. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Klik | | | | | Kminek | Dużo | Uczeń | |
| Liczba | | | | Szyba | Szok | | | |
| | | | Bób | | Łata | | | |
| Kobyła | | | | | | | | |
| | Robot / Chód | | | | | | Ono | |
| Trąba słonia | | | | | | Jan / Ob | | |
| | | | Sen | Konie | | | | |
| | | | Ida / Czółko | | | | | |

# Нам сэрца спявае беларускай песняй

**Са Славамірам Трафімюком — лідарам беларускага калектыву „Ас”, вакалістам, кампазітарам, аўтарам тэкстаў, гарманістам і гітарыстам з Беластока размаўляе Юрка Буйнюк.**

**Юрка Буйнюк: — У 2017 годзе Вы вярнуліся на польскую музычную сцэну. Як публіка ўспрымае Вашы старыя і новыя песні?**

**Славамір Трафімюк:** — Па-рознаму. Найлепш успрымае нашы песні старэйшая публіка, 1990-х гадоў, якая быццам затужыла па такіх гуртах як мы. Сённяшняя моладзь нашых старых песень не ведае і не ведае нас як калектыву. Аднак назіраю агульную зацікаўленасць музыкай, якую мы іграем. Мы проста не такія вялікія зоркі, але ўспрыманне ёсць, хаця іншае чымсьці да гэтых пор.

**— Вярнуліся Вы ў ліпені 2017 года новай песняй і кліпам „Szalona miłość”. На запустах я чуў беларускую версію гэтай песні...**

— Я быў у поўнай эйфарыі — заспявалі, пайшлі ў студыю і я думаў, што ўсё файна. Потым мы пабачылі, што штосьці недапісана, быццам не хапае аднаго голасу. Калі мы на Фестывалі „Беларуская песня” занялі першае месца, мы яе распісалі на два галасы ў беларускай версіі, інакш заспявалі прыпевы. Калі мы запісалі песню „Szalona miłość”, дык я думаў, што дзесьці пусцяць гэты кліп ці пакажуць. Пусцілі пару разоў у тэлеканале Polo TV, але не дадалі да Хіт-парада.

**— Запісалі Вы новыя версіі песень і кліпаў „Szkoda łez” і „Na zamku”. Апошні кліп паглядзела больш за паўтара мільёна чалавек на канале YouTube. Вашым фанатам больш падыходзяць старыя ці новыя песні?**

— Людзі хочуць па палове. Адны кажуць, што трэба новых песень, а другія — што трэба старых. Даў я шанс для нашага Юркі Юраўца і ён напісаў пад гітару песню „Piękne oczy” — песню тыпу „W dyskotece”.

**— А як адбываецца прамоцыя Вашых польскіх песень у польскіх масмедыях?**

— Калі я высылаю свае песні ва агульнапольскія радыёстанцыі тыпу VOX FM, а нашых песень не ўключаюць у праграму, значыць, яны нас не хочуць. Калі запішу новы альбом, дык ад мяне гэтыя радыёстанцыі нічога новага не атрымаюць. Таксама ў тэлеканале Polo TV многа дрэннай музыкі і я нават не гляджу гэты канал. Polo TV мае загад не прасоўваць славянскую музыку, толькі не нішчыць і дыскрэдытаваць. Polo TV кіруецца прынцыпам „пакажыце нам прыгожую дзяўчыну, а мы зробім яе вялікай зоркай disco polo”. Яны захапляюцца тым, што не да канца якасна добрае. У іх аранжыроўка і вакал створаны ў музычнай студыі, а не на выступленнях ужывую і таму музыка становіцца штучнай. Яны думаюць, што маюць добры рэцэпт на прамоцыю музыкі, а я думаю, што пачынаецца тэндэнцыя спаду рэйтынгу Polo TV — прыватнага камерцыйнага музычнага тэлеканала. Там маюцца прыватныя ці спонсарскія сувязі. Я ў гэта не хачу ўваходзіць.

**— Ваш канал на YouTube — найбольш развіты ў параўнанні з іншымі гуртамі. Тут можна паслухаць Вашы песні з усіх альбомаў. Ці YouTube гэта добрая прамоцыя беларускіх гуртоў з Падляшша?**



— Бачу вялікую магчымасць прамоцыі на канале YouTube. Такія гурты як „MIG”, „Defis”, „Mirage” маюць свае каналы і я спакойна думаю, што YouTube і інтэрнэт — для нас вельмі добрае месца і мы як калектыў будзем там развівацца.

**— Як беластоцкае радыё Jard ставіцца да прамоцыі беларускай музыкі?**

— Яны робяць вельмі добрую працу ў галіне прамоцыі музыкі з Беласточчыны, але ёсць адна загана — няякасны гук вяшчання. Яны павінны прыдбаць добрага гукарэжысёра і абсталяваць радыё сучаснай тэхнікай.

**— У інтэрв’ю раз Вы сказалі, што выхаваліся на канцэртах пажаданняў Віктара Рудчыка на Радыё Беласток. Як успамінаеце гэтыя перадачы?**

— Я на гэтых перадачах вучыўся. Я маю іх запісаныя на магнітафонных касетах з 1982 года.

**— Апрача Падляшша шмат канцэртаў іграеце па ўсёй Польшчы...**

— Цяпер сяджу і пішу тэкст польскай версіі песні „Ты ляці мая душа”. У гэтым годзе маем запрашэнне ў Полчын-Здруй, дзе на пачатку жніўня адбудзецца Славянска-цыганская бяседа (трансляцыя на TVP2). Там мы будзем выступаць на беларускай і польскай мовах. Год назад мы ігралі каля Гданьска, Гнезна. Заключаны ўжо дагавор на дажынкі ў Бяла-Піскай на Мазурах, на канцэрт у Барташыцах, Уйкавіцах. Супольныя гены характэрныя для ўсіх славянскіх моў і не існуе шансаў іх выкараніць.

**— У 2012 годзе да 20-годдзя гурта „Ас” Вы выпусцілі можа і нават найлепшы альбом у Вашай кар’еры. Вы яго зрабілі з гітарыстам групы „Імпэрыюм” Вальдэмарам Окштулем і традыцыйна з Маркам Зрайкоўскім. Ці доўга Вы працавалі над гэтым альбомам і калі выпусціце чарговы?**

— Я не шкадую гэтага, бо гэта быў найважнейшы момант у нашай кар’еры. Нам тады сэрца спявала беларускай песняй. Гэта быў момант, калі я найлепш адчуваў сябе ў музычным плане, а аранжыроўшчыкі Вальдэк Окштуль і Марк Зрайкоўскі з ахвотай з намі працавалі. Яны мне сказалі, што над адной песняй працуюць па пару месяцаў, каб прыгожа атрымалася. І так паўстаў альбом „Ты ляці мая душа”. Яны мне казалі, што вельмі любяць працаваць з маёй музыкай, таму што яна меладычная. Падобнай музыкі да гэтай пары ніхто не рабіў. Была падтрымка ад спонсараў альбома і я плаціў ім канкрэтныя грошы. Тады паўсталі песні „Ты ляці мая душа”, „Гандзя”, „Белая чаромушка”, „Сіняя валошка”, „Ясны сокал”, „Коля трактарыст». Мяркую, што альбомам „Ты ляці мая душа” мы аставілі вялікі след ва ўсходняй, беларускай беластоцкай музыцы і ён застанецца на пакаленні. Падобна справа маецца з песнямі „Едуць гарадскія”, „Песня пра каханне” ці „Песня пра маму”.

**— У інтэрв’ю для навагодняй „Нівы” ў 1996 годзе Вы сказалі, што да ўзнікнення гурта „Ас” Вы працавалі на эміграцыі ў Англіі. Як успамінаеце гэты час?**

— У 1990-я гады выехаў я на заробак, бо там былі большыя грошы. Эміграцыя ўсвядоміла мне адно, што ёсць туга па родным Падляшшы. Англія гэта цалкам іншы свет. Калі я там паехаў у 1990 годзе і працаваў на будове, то ў параўнанні да тадышняй Польшчы тэхналогія ў Англіі была намнога больш развітая. Там былі машыны маркі Makita, Blacken, Bosh, якія ў Польшчы з’явіліся ў канцы 1990-х. Я там быў коратка, толькі паўгода, але зарабіў многа грошай. У Англіі не парваў я з музыкай. Я прабываў у асяроддзі беларусаў дык раз ці два выступіў на гадавіне Слуцкага паўстання. Сам я іграў на клавішах і спяваў. Гэта было для мяне новае перажыванне. Былі там людзі з Беларусі, якія ў Англію прыехалі пасля Другой сусветнай вайны. Мая паездка ў Англію была для мяне навукай, але мяне цягнула дахаты, на Падляшша. Быў я кавалерам, хацеў мець сваю дзяўчыну і звязаць з ёю сваё жыццё. Мне хацелася вярнуцца да нашых людзей, да бацькоў, сяброў, а ў Англіі я не хацеў застацца.

**— Вы ігралі канцэрты ў Бельгіі. Як Вас там прымалі нашы суродзічы?**

— У Бельгію нашых людзей выехала больш і многія там пасяліліся. Там пераважна нашы дзяўчаты адзінокія і іх многа. Сустрэў я суседзяў і школьных сяброў. Калі мы на свой сайт паставілі інфармацыю, дык яны прыйшлі. Мы паехалі бусам, праехалі паўтары тысячы кіламетраў на захад, а там свае людзі! Мы расставілі інструменты на сцэне, зайгралі канцэрт. Я адчуваў сябе як у беластоцкім клубе. Першы раз выступілі з рознымі песнямі. Але калі другі раз паехалі, дык песні ў большасці былі ўсходнія. Як цікавінка, для нас на канцэрт афіцыянты ляцелі з Сямятыч. Быў з Падляшша свойскі стол са свойскай ежай з Беласточчыны, так як у нас на беластоцкіх запустах у клубе „Mozart” ці „Santana”. У мяне склалася ўражанне, што яны там жывуць на чужыне і вельмі патрабуюць нашай беларускай музыкі, што ім цяжка жыць далёка ад роднай хаты.

**— Вы таксама выступалі з канцэртамі на Беларусі. Як беларуская публіка Вас успрымала?**

— На Беларусі я быў многа разоў разам з іншымі калектывамі з Беласточчыны. Мы былі ў Менску, Гродне, Нясвіжы, Барысаве, Дуброўне. Там нас лічаць палякамі. Быў я ў свайго добрага сябра, які іграе ў вясельных калектывах. Ён жыве ў Васілішках, адкуль родам Чэслаў Немэн. Жыхары гэтай мясцовасці лічаць сябе палякамі. Восенню 2018 года на вяселле яго дачкі прыехаў з Гродна вясельны калектыў музыкантаў-прафесіяналаў — хлопец з дзяўчынай. Хлопец іграў на гармоніку і сінтэзатары, а дзяўчына спявала ўжывую, вельмі прафесійна, быццам Наталка Карпа („Одна калина” — хіт 2006 года на Украіне — Ю. Б.). І я з імі спяваў. Яны лічылі мяне палякам, а я ж беларус! Вельмі ім падабалася, калі мы выступалі з гармонікамі і гітарай. Я там спяваў усе свае беларускія і польскія песні. Яны былі вельмі задаволены з гэтых выступленняў. Дзяўчына, што спявала, лічыць сябе полькай з Беларусі. Калі яна прыехала ў Варшаву і запытала ў варшавянкі, як трапіць на Залатыя тарасы, тая адвярнулася і не схацела ёй

адказаць. Полька з Беларусі думала, што полька з Варшавы павінна ёй дапамагчы, але калі пачула ў яе польскую мову з рускім акцэнтам, дык уцякла! Гэта паказвае як моўны менталітэт дзеліць беларусаў з Беласточчыны і беларусаў з Беларусі, так як і палякаў з Беларусі з карэннымі палякамі з Польшчы. Сітуацыя смешная, калі я ім на Беларусі тлумачу, што я карэнны беларус, а там лічаць мяне палякам, а палякаў з Беларусі жыхары Польшчы лічаць рускімі, хаця яны спакон вякоў палякі і жывуць у ваколіцах Ліды ці Шчучына на Беларусі. Палякі з Беларусі едуць у Варшаву, а там лічаць іх рускімі! І думаю, што гэта скажоны менталітэт. Калі мы іграем з гармонікам, дык адзываецца іх усходняя душа. Ад гэтай музыкі бярэцца гармонія людзей і яны хочуць разам з сабой бяседаваць, разам спяваць, разам гутарыць і гэта найважнейшае.

**— Да нядаўна вы ігралі на вяселлях. Кажуць, што вяселлі гэта вельмі добры музычны варштат для музыканта. Як успамінаеце гэты час?**

— Вядома, што гэта адзінае месца, дзе нас, непрафесійны калектыў, патрабавалі аматары музыкі „на ўсходнюю ноту". Тады папулярная была польская папса тыпу „Akcent", „Imperium", а „Ас" быў адзіным беларускім калектывам. Яшчэ тады іграў гурт „Рэаль" братоў Кавальскіх. Гэта быў канец камуны ў Польшчы. На Падляшшы пасля распаду групы „Дубіны" было вялікае запатрабаванне на беларускую музыку. І калі пасля 2002 года польская музыка disco polo зышла „ў падполле", мы ўвесь час спявалі беларускія, рускія і ўкраінскія песні. І на вяселлях былі патрэбны такія песні. Мы маглі праявіць сябе таксама на гмінным фэсце ў Нараўцы ці ў Бельску або на Фестывалі „Беларуская песня" ў Беластоку. Любоў да музыкі і спявання, а прытым і заробак — дык усё гэта ішло разам. Вяселлі, беларускія „атрасіны" студэнтаў, Новы год, запусты, беларускія дыскатэкі, але найчасцей мы ігралі на вяселлях .

**— Дзевяностыя гады гэта час шматлікіх беларускіх фэстаў і купалляў, арганізаваных БГКТ, на якіх таксама і Вы выступалі. Як успамінаеце гэты час?**

— Мы надалей супрацоўнічаем з БГКТ. У 1990-х гадах беларускіх фэстаў было вельмі многа. Зараз ёсць многа канкурэнтных мерапрыемстваў і тэрміны не супадаюць. Мяняецца публіка, якая не хоча мець самых беларускіх калектываў, імпрэзы сталі разнастайнымі ў музычным плане. Беларускія канцэрты зайграеш разоў пяць, а мо дзесяць і ўсё. То на дажынкі паедзем, то ў Нараўку ці на Купалле і гэта ўсё, дзе выконваюцца толькі беларускія песні. Мне падабаюцца нізавыя ініцыятывы. Напрыклад, апошнім часам у маю родную вёску Стральцы прыязджала тэлебачанне. Мясцовыя людзі пачынаюць шукаць радаслоўную, ці адбудоўваць святліцу і гэта робіць солтыс, крыху дапамагае гміна і адзін ці два гурты. І гэта мне вельмі падабаецца.

**— Маеце некалькі новых песень на беларускай мове: „За дзяўчынай", „Васямнаццаць гадоў", „Сустрэў я ружу", ці „Мая рабіна". Ці плануеце альбом на беларускай мове?**

— Беларускіх альбомаў ужо некалькі ёсць. Найпазней да канца 2019 года хочам запісаць беларускі альбом. Была ўжо сустрэча, маем ужо тэмы на гэты альбом, трэк-ліст загалоўкаў. Я заўважыў, што некаторыя калектывы баяцца беларускага рэпертуару. Напрыклад, колькасць знаёмых па той прычыне, што паявіліся беларускія песні „Аса" на канале YouTube, зменшылася на фейсбуку. Але нямнога, не 5 тысяч, толькі 10-20 асоб адключылася ад калектыву, калі ў рэпертуары пабачылі ўсходнеславянскія песні.

**— Колькі песень будзе на беларускім альбоме?**

— Трэк-ліст беларускага альбома будзе такі: 01. *Миллион алых роз*; 02. *Мая рабіна*; 03. *Сарвалі ружу*; 04. *Васямнаццаць гадоў*; 05. *Я табе мама не гаварыла*; 06. *Калі ты берагам ідзеш*; 07. *За дзяўчынай*; 8. *Ясны сокал* і яшчэ шэсць песень, якія няхай застануцца сюрпрызам.

**— Якой музыкі паводле Вас патрабуе наш беларускі народ на Падляшшы?**

— На працягу года-двух на канцэртах я правяраў, як будзе выглядаць музыка, чаго яна патрабуе і добра ведаю, чаго хочуць нашы людзі. Яны інакш ацэньваюць „нашы" гурты тыпу „Akcent", „Mirage", „Jorrgus", а інакш нас. Калі мы ігралі пад канец лета ў Гайнаўцы, людзі хвалілі нас. Публіка ў Гайнаўцы вельмі добра нас успрыняла.

**— Сярод новых песень гурта „Ас" ёсць вядомая падляшская песня „Колі ты бэрэгом ідэш".**

— Гэтую мелодыю я памятаю, але я не ведаў слоў. Я нядаўна пачуў гэтую песню ў выкананні ўкраінскага жаночага гурта „Дулібы". Гэта кавер народнай песні. Мы заспявалі яе ў мужчынскай танацыі. Ёсць некалькі тэкставых версій гэтай песні — „Колі каліна нэ цвіла" або „Колі ты бэрэгом ідэш". Мы гэтай песні надалі наш падляшскі характар. На фестывалі „Беларуская песня" мы выступілі з беларускім тэкстам, аднак найлепш песня гучыць па-нашаму, па-падляшску. Скажу, што песня „Колі ты бэрэгом ідэш" гэта тыповая падляшская песня.

**— Ці будуць беларускія відэакліпы гурта „Ас"?**

— Пакуль няма беларускіх відэакліпаў, але будуць. Напэўна дачакаецеся відэакліпа да „Песні пра маму". Я не хачу запісваць відэакліпа дзеля найбольшай колькасці праглядаў на YouTube, але для адлюстравання нашага калектыву ў гэтай песні. Скажу, што думаў пра „Песню пра маму", пакуль мая мама жыве.

**— Часта выступаеце на беларускіх запустах ці дыскатэках. Як ацэньваеце публіку беларускіх дыскатэк зараз і ў 2003-2008 гадах, калі Вы пачыналі выступаць на такога тыпу імпрэзах?**

— Мы здзіўлены, што вельмі многа моладзі прыходзіць на гэтага тыпу імпрэзы. Для мяне вельмі прыемна, што ўжо другое пакаленне моладзі прыходзіць на нашы імпрэзы паслухаць музыку, якую мы спяваем. Мяне цешыць, калі на беларускія дыскатэкі прыходзіць моладзь, якая мае досыць „хлам'я", які прамуе Polo TV і ім бракуе славянскай мелодыкі. Яны ведаюць усе нашы песні, якія мы спяваем і я не думаў, што так яшчэ будзе ў клубе „Гвінт" у Беластоку, дзе мы 8 сакавіка будзем іграць. У клубе „Гвінт" нам кажуць: „Іграйце толькі па-свойму", дык мы іграем.

**— У Вашай дыскаграфіі большасць складаюць альбомы на беларускай мове. Вы ў 1995-2005 гадах амаль штогод выдавалі альбом.**

— У апошнім часе ў „Беларускім календары" я на чатырох старонках апісаў сваю творчую дарогу. Так, у 1995-1998 гадах у фірме Green Star мы выдалі тры беларускія касеты „Едуць гарадскія", „Варожка" і „*Ас* для вас". Пасля самі па сабе выпусцілі кампакт-дыскі „З песняй праз жыццё" (2000), „Прыязджайце на свята" (2001), „Як що любиш кохай" (2002), „Залатое калечка" (2005), „Песні нашых бацькоў" (2008 Green Star) і „Ты ляці мая душа" (2012).

**— Калі Вы нейкую песню бярэце з Усходу, дык заўсёды на кампакт-дыску пішаце хто аўтар слоў і музыкі ў арыгінале і гэта мне вельмі падабаецца. Якія песні публіка найлепш успрымае — Вашы аўтарскія, народныя ці Вашы каверы з рускай музыкі?**

— Публіка ў памяці і ў генах мае ўсходнія мелодыі. „Залатое калечка" гэта песня, якую спявае Віктар Каралёў (аўтар музыкі не ён). А, напрыклад, наша беларуская песня „Лёс" — аўтар музыкі Уладзімір Касцюк, які напісаў яе для Надзежды Кадышавай (руская група „Золотое кольцо" — Ю. Б.). Але „Вінавата", хаця спявае Кадышава, гэта народная песня. Я сам не ведаў, што песня „Конфеткибараночки" (з рэпертуару гурта „Зорка" — Ю. Б.) гэта савецкая песня, а мелодыя напісаная ў 1905 годзе. Пры песнях, якія мы выконваем як каверы, пішам, хто аўтар, ці Кадышава, ці Каралёў. Іх песні даўно жывуць у нашым народзе, але цяжка аўтара музыкі да канца прыпісаць. Напрыклад, усе думаюць, што вядомая ўкраінская песня „Розпрягайте хлопці коней" — народная, а гэта аўтарская песня (словы і музыка Івана Нэгрэбэцького — Ю. Б.). З нашых аўтарскіх песень, якія я пісаў, людзям найбольш падабаюцца „Едуць гарадскія". „Песня пра маму" добра ўспрымаецца на вяселлях. За год ці два мы адновім гэтыя песні ў новых аранжыроўках. Яны будуць для танцавальных мэт, каб падабаліся людзям. На канцэртах народ найлепш успрымае песні „Ты ляці мая душа", „Выйду на вуліцу", „Залатое калечка" ці „Белая чаромушка". Накошт „Белай чаромушкі" — яе выконвае Сяргей Славянскі пад загалоўкам „Алёнушка", але музыка выводзіцца з польскай песні „Śpiąca królewna". У Лондане я напісаў аўтарскую мелодыю да песні „Богач". А песні „Дзяўчыначка", „Айчына", „Гэй, паны", „У маю", „Песня пра каханне", „Песня пра маму", „Едуць гарадскія", „Толькі кахай", „Не забудзь беларус", „Белая сукенка", „Тост для бацькоў", „Гандзя" гэта мае аўтарскія творы.

**— Першы альбом „Выйду на вуліцу" Вы выдалі ў фанаграфічнай фірме J. M. W. Ці яна спрыяла беларускім гуртам?**

— У 1990-х гадах Яраслаў Вазьнеўскі меў свой музычны гурт, а на базары ў Беластоку — сваю „буду" (лаўку), у якой прадаваў касеты. Гэта даўні сябра Марка Зрайкоўскага. Ярэк з братам, Міраславам Вазьнеўскім, заснавалі фанаграфічную фірму і адтуль узялася яе назва J. M. W. Яна як першая выдавала касеты „на ўсходнюю ноту" такіх гуртоў як „Балалайка", „Рэмікс", „Рэаль" і іншых. Ярэк быў тады адзіным музычным выдаўцом на Беласточчыне, таму мы да яго прыйшлі са сваім дэбютным матэрыялам на першую касету „Выйду на вуліцу". Ён жыў у Беластоку па вуліцы Ружанай.

**— У студыі Марыюша Харужага Вы запісалі альбом калядак з жывымі інструментамі. Як Вам працавалася над гэтым альбомам?**

— Гэта быў час, калі да калектыву „Ас" прыйшоў Юрка Юравец. Матэрыял для „Песні нашых бацькоў" быў гатовы, падрыхтаваны яшчэ з Яркам Баравіком. Першапачаткова я спяваў яго з Маркам і Мажэнай Зрайкоўскімі. Калі Юрка дайшоў да гурта, тады ў нас атрымалася файнае двухгалоссе. Мы з Юркам усе песні, якія спявалі да гэтай пары, пачалі спяваць на два галасы. Менавіта Юрка ўвёў у калектыў „Ас" двухгалоснае спяванне. Сталі да нас пісаць людзі з усяго Падляшша, што ў нас вельмі прыгожае двухгалоссе і што мы павінны запісаць альбом. Да гэтай пары я спяваў на два галасы сам, запісваючы гук на дзвюх сцежках. А тут з'явіўся Юрка, другі вакал і гэта было звянчэнне нашай кар'еры. Калядкі на два галасы далі вельмі добры старт для нашага вакальнага дуэту і новага напрамку, па якім меў працаваць у будучыні калектыў „Ас". Юрка прыйшоў да Харужага ў 2008 годзе і даслоўна на працягу месяца выдалі мы альбом з калядкамі ў двухгалоссі. Калядкі пайшлі ў народ і людзі ахвотна іх слухалі. Некаторыя бацюшкі казалі, што яны за моцна музычныя, таму што звычайна калядкі спяваюць без інструментаў. Я заўсёды калядаваў па вёсцы з гармонікам.

**— А як Вы сустрэліся з Юркам Юраўцом? Ён раней выступаў у гурце „Кошыкі".**

— Ён многа выязджаў, быў заняты і перастаў выступаць, а „Кошыкі" сталі іграць у іншым складзе. Тады ён стаў шукаць іншага гурта. Ад нас тады адыходзіў Ярэк Баравік. Мы сустрэліся на Сяброўскай бяседзе ў Гарадку ў 2008 годзе. Пані Дануся Цацэрка, якая мае друкарню і нам выдавала вокладкі для альбомаў, прадставіла мне Юрку Юраўца. А ўжо ў кастрычніку паехалі мы на першую імпрэзу. Апрача „Кошыкаў" Юрка спяваў у праваслаўным хоры пры Свята-Мікалаеўскай царкве на вуліцы Ліпавай у Беластоку.

**— Чаму Вы не выступаеце на Сяброўскай бяседзе?**

— Найбольш нам перашкаджаюць падпісаныя дагаворы на вяселлі на два гады наперад. А дагавораў у нас вельмі многа. Але калі маю свабодны тэрмін і звоніць Юрка Астапчук, дык я тады абавязкова еду на Сяброўскую бяседу, ці раней на Прымацкую бяседу, на якой я іграў вельмі часта. Два найлепшыя канцэрты, якія я зайграў у сваёй кар'еры, гэта забавы на Прымацкай бяседзе ў Міхалове. Я там сябе вельмі добра адчуваў, таму што гэта родная мясцовасць маёй жонкі і швагра (Адама Снарскага — клавішніка гурта „Ас"). Там было пару тысяч людзей. Я вельмі добра сябе адчуваў таксама як прадстаўнік беларускай танцавальнай песні на Беласточчыне, якога належным чынам ацанілі тыя людзі, якія прыехалі на мае канцэрты.

**— На канец крышку гісторыі. У першых складах „Аса" былі Андрэй Садоўскі, Яраслаў Хомчык, Яраслаў Баравік і Андрэй Касцюкевіч. Ці трымаеце кантакт з былымі калегамі?**

— Надалей кантактуемся. Андрэй Садоўскі пабудаваў хату ў Грабуўцы каля Беластока. Ён — водаправодчык, займаўся пракладкай цэнтральнага ацяплення, а цяпер працуе пры тэрмаізаляцыі дамоў. У гурце „Ас" адказваў за тэхнічнае аснашчэнне, быў клавішнікам і другім вакалістам. Андрэй Касцюкевіч закончыў юрыдычны факультэт і стаў паліцыянтам; неўзабаве пойдзе на пенсію. Ён жыве ў Беластоку і мы раз на паўгода сустракаемся, каб выпіць каву і пагутарыць. Яраслаў Хомчык выехаў у Бельгію, жыве ў Брусэлі. Калі мы ігралі канцэрт у Брусэлі, тады сустрэліся на імпрэзе. Разам ездзілі па горадзе і паглядзелі Брусель. Ярэк Баравік жыве ў Беластоку, нядаўна выдаў замуж дачку. Памёр яго бацька і я быў на паніхідзе па бацьку. З Яркам Баравіком плануем пад'ехаць на вёску, таму што я апошнім часам быў у яго мамы, а ён у мяне ў Стральцах не быў. З усімі хлопцамі з „Аса" ўтрымліваю кантакты. Я чуў, што Генадзь Шэмет прыхварэў.

**— Вы з Шэметам рабілі альбом „Залатое калечка"?**

— Марк Зрайкоўскі карыстаўся яго акардэоннай інструментоўкай. Генадзь падыгрываў на гармоніку ў песнях „Залатое калечка", „Шарабан". Ён запісаў некалькі гукавых сцежак на песні з альбома „Залатое калечка".

**— Спадар Славамір, вельмі Вам дзякую за размову і жадаю поспехаў у Вашай музычнай кар'еры.**

— Шчыра дзякую вам за размову і жадаю ўсяго найлепшага паклоннікам нашага калектыву „Ас".

Гутарыў
**Юрка БУЙНЮК**

1 ☞ працяг

## Юбілейны Конкурс беларускай гавэнды

вучні, якіх не палохаюць доўгія тэксты. Каб дабіцца перамогі, патрэбны яшчэ акцёрскія здольнасці, — заявіла настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская. Паінфармавала яна, што прывезла на конкурс дзве вучаніцы са школы ў Белавежы і вучаніцу ПШ № 1 у Гайнаўцы, у якой з гэтага школьнага года таксама вучыць беларускай мове.

У ходзе конкурсу цікава запрэзентаваліся трое вучняў з Міхалова, якіх падрыхтавала настаўніца беларускай мовы Эмілія Грыка. Хаця Міхалова распалажана па-за Гайнаўскім паветам, вучні адсюль шосты раз прынялі ўдзел у конкурсе расказчыкаў і ў мінулых гадах дабіваліся поспехаў.

— Мне мой настаўнік Ян Карчэўскі даў матэрыялы. Я выбраў аповед, які мне найбольш падыходзіў. Я люблю расказваць, трымаючы публіку ў напружанасці, стараюся распавядаць тэксты з гумарам, паколькі ў такім жанры я найлепш сябе адчуваю. На жаль, сяброўкі і сябры з белліцэя не рашыліся прыступіць да конкурсу расказчыкаў і таму сёння толькі я буду выступаць ад імя белліцэя, — сказаў Крыстыян Паскробка, якому сёлета журы прысвоіла трэцяе месца.

— Я вельмі люблю распавядаць з гумарам і сёння таксама буду так расказваць,



Уладзіслаў Кутузаў

каб развесяліць публіку, — заявіла перад сваім займальным выступам Малгажата Галёнка з трэцяга класа Гайнаўскай белгімназіі. Распавядала яна па-акцёрску і заняла першае месца ў катэгорыі вучняў сёмага, восьмага класаў пачатковай школы і трэцяга класа гімназіі.

Першыя месцы ў гэтай групе занялі таксама Уладзіслаў Кутузаў з Нарвы, Тамаш Харкевіч з Нараўкі, Марта Хілецкая з Белавежы і Барташ Яканюк з Гайнаўкі.

— Каб дабіцца поспехаў у конкурсе расказчыкаў, трэба да яго рыхтаваць вучняў, якія любяць распавядаць. З нашай школы раней многа вучняў тут расказвала і дабівалася поспехаў. Сёння я рада выступу Тамаша Харкевіча, у якога ёсць вялікі вопыт і ўмеласці, — удакладніла настаўніца беларускай мовы ў Нараўчанскай школе Анна Кандрацюк.



Тамаш Харкевіч

— Я вучуся ў Гайнаўскай белгімназіі, але тэкст дапамагала мне падрыхтаваць былая настаўніца беларускай мовы ў нашай школе Іаланта Грыгарук, якая зараз працуе ў Пачатковай школе ў Навакорніне. Я з гумарам буду распавядаць створаную пад конкурс гісторыю майго жыцця так, каб зацікавіць публіку маім расказам, — заявіў гайнаўскі белгімназіст Якуб Казімірук, які заняў другое месца.

Паўліна Дзмітрук і Мартына Кердалевіч з ПШ № 3 у Гайнаўцы, якіх падрыхтавала да конкурсу настаўніца беларускай мовы Марыя Крук, занялі другія месцы. Такія ж месцы ў катэгорыі старэйшых вучняў занялі таксама Юлія Ахрымюк з Чыжоўскай школы і Марко Кутузаў з Нарваўскай школы, якія ўжо не пачаткоўцы і ведалі, як трэба распавядаць, каб здабыць прызнанне ў конкурснай камісіі. Тры вучаніцы з ПШ у Навакорніне — Ана Рушук, Вольга Сідарук і Наталля Ляўчук занялі трэція месцы.

— Са школы ў Навакорніне я падрыхтавала на конкурс 5 вучняў і большасць з іх тут выступае першы раз. Спачатку я папрасіла, каб яны расказалі, што іх цікавіць і тады да кожнага майго вучня стварала аповед, які найбольш яму падыходзіць, — удакладніла настаўніца беларускай мовы ў ПШ у Навакорніне Іаланта Грыгарук, якая ад многіх гадоў працуе ў журы конкурсу расказчыкаў.

— Колькі я працую ў камісіі, яшчэ ніколі не было так высокага ўзроўню расказаў, як падчас юбілейнага дваццатага выпуску. Нас цешыць, што сёння распавядае таксама больш асоб, чым выступала падчас папярэдніх конкурсаў і складана будзе вылучыць лаўрэатаў першых месцаў, — заявіла пасля ўсіх выступаў вучняў член журы Ірэна Ігнатовіч з Гайнаўскага белліцэя.

Калі журы конкурсу расказчыкаў, у якім працавала таксама Віялета Андрасюк з Гайнаўскага белмузея, аналізавала выступы паасобных вучняў і разглядала кандыдатаў на пераможныя месцы, перад сабранымі ў актавай зале вучнямі і іх настаўнікамі выступілі белліцэйскі калектыў «Знічка» і яго салістка Наталля Мусюк. Пазней вучняў і настаўнікаў запрасілі ў сталовую паабедаць, дзе ўручаліся дыпломы і ўзнагароды пераможцам.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Калі ў „Ніве" з'явіліся першыя артыкулы аб сайтах у беларускім сегменце інтэрнэту, яшчэ не было смартфонаў і айфонаў, смарт-тэлебачання, GPS-навігатараў, немагчыма было адсачыць па тэлефонным дадатку рух аўтобусаў. З таго часу мінула каля 17 гадоў, і сёння некаторыя тагачасныя „сучасныя" словы выглядаюць некалькі па-старасвецку. Напрыклад, цяпер рэдка хто ўжывае такія словы як віртуальная рэчаіснасць, а камп'ютарная пісьменнасць азначае крыху іншае, чым проста здольнасць набраць тэкст і адаслаць электронны ліст.

Такі прагрэс стаў магчымым, дзякуючы пастаяннай працы IT-спецыялістаў, армія якіх з кожным годам павялічваецца, але, тым не менш, гэта прафесія лічыцца адной з найбольш запатрабаваных у свеце. Гэта значыць, працы ім хопіць яшчэ не на адзін год.

Зразумела, што сучасныя веды, а IT-веды можна назваць найсучаснейшымі, каштуюць даволі дорага. Таму айцішнікі зарабляюць немалыя грошы. Але і сярод іх знойдуцца людзі, якія гатовы нешта зрабіць бясплатна, на харытатыўных пачатках.

Месцаў, дзе сустракаюцца тыя, каму патрэбны сайт і тыя, хто можа задарма зрабіць такі сайт, не так многа, і адно з іх, так званая „Лічбавая майстэрня", месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://it.falanster.by.** „Лічбавая майстэрня. Онлайн-маркет IT-валанцёрскага абмену, на якім валанцёры і грамадскія ініцыятывы змогуць знаходзіць адзін аднаго", — так вызначаецца сутнасць сайта-майстэрні. Уласна гэта сайт распрацаваны даволі добра і выглядае цікава, так бы мовіць, па-маладзёваму.

Адна з яго найбольшых адметнасцей — мовы. Са зместам сайта можна пазнаёміцца па-беларуску, па-англійску, па-руску і на трасянцы. Апошняя ніколі не сустракалася аўтару даных радкоў у друкаваным выглядзе. Зразумела, гэта з кпіны з непісьменнай паточнай гаворкі. „Цыфравая масцірская. Эта как базар, гдзе ітэ-валанцёры і абсчэствінные ініцатівы найдут адзін аднаво", — так, на думку стваральнікаў „Лічбавай майстэрні", выглядае друкаваны варыянт беларуска-рускай трасянкі.

Калі ж вяртацца да тых магчымасцей, якія дае майстэрня, то для грамадскіх ініцыятыў гэта спосаб адрамантаваць або стварыць сайт, зрабіць дызайн плаката, банера, лагатыпа і г.д., напісаць мабільны дадатак, паставіць аперацыйную сістэму, перакласці вэб-сэрвіс або зрабіць урок па лічбавай бяспецы. Дапамагчы ініцыятывам зрабіць усё гэта здолее айці-валанцёр, які можа быць распрацоўшчыкам сайтаў або мабільных дадаткаў, адмыслоўцам у інфармацыйнай бяспецы, графічным дызайнерам, SEO-спецыялістам ці перакладчыкам. „І калі вы жадаеце падзяліцца сваімі ведамі ды часам з іншымі грамадскімі ініцыятывамі — вы патэнцыйны ўдзельнік валанцёрскага руху", — сцвярджаецца на сайце.

Ніжэй на галоўнай старонцы размешчаны гісторыі ініцыятыў і валанцёраў, якія мелі ці маюць стасункі з „Лічбавай майстэрняй". Датычна апошніх цікава даведацца, што паўплывала на іх, што яны вырашылі займацца ў ёй айці-валанцёрствам. „Лічбавая майстэрня" — гэта месца, дзе набіраюцца вопыту. Тут людзі атрымліваюць навыкі, якія будуць карыснымі на рэальных праектах", — кажа фронт-энд (праграміст, які займаецца распрацоўкай карыстальніцкага інтэрфейса) Зміцер Буйміструк. „IT-валанцёрства — гэта добрая магчымасць раскрыць сябе, знайсці аднадумцаў і зрабіць нешта карыснае для тых, хто не мае патрэбных рэсурсаў", — адзначае ў сваю чаргу дызайнерка Анастасія Фрост.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

## 90 гадоў з дня нараджэння

# Факунды Несцяровіча

Удзельнік антыкамуністычнага падпольнага вучнёўскага руху на Мядзельшчыне, вязень савецкіх канцлагераў Факунда Несцяровіч нарадзіўся 8 сакавіка 1929 г. у вёсцы Юшкавічы (цяперашні Мядзельскі раён). Біяграфія Несцяровіча даследавана мала, пэўныя звесткі можна знайсці ў кніжцы Міхася Чарняўскага „Як пошуг маланкі", прысвечанай найперш герою антысавецкага супраціву Расціславу Лапіцкаму.

Уладальнік рэдкага імя Факунда (яно паходзіць ад лацінскага слова „facundus" — красамоўны) вучыўся ў Мядзельскай сярэдняй школе. Там пазнаёміўся з Расціславам Лапіцкім і пад ягоным уплывам уключыўся ў моладзевы падпольны рух. Знаёмства адбылося так: Факусь Несцяровіч, Генік Нафрановіч з Юшкавічаў і Альфон Кундра з Крапіўны кватаравалі непадалёк школы ў доме Звяругаў („Звяружкаў") — іх як аднадумцаў і знайшоў Лапіцкі. Увесну 1948 г. падпольная група, арганізатарам і ідэйным натхняльнікам якой быў Лапіцкі, ужо сфармавалася. Другім лідарам, фактычна намеснікам Лапіцкага быў Несцяровіч, тады вучань сёмага класа.

Несцяровіч удзельнічаў у сустрэчах падпольшчыкаў у Мікасецку, дзе жыў Лапіцкі з маці. Пасля заканчэння сёмага класа Факунда паступіў у Мінскі палітэхнікум, аднак сувязей з мядзельскімі сябрамі не перапыняў. Арганізаваная група моладзі друкавала і распаўсюджвала антысавецкія ўлёткі. Яны былі досыць радыкальныміі расклейваліся на Мядзельшчыне, у Смаргоні, частку ўлётак Несцяровіч завозіў нават у Мінск. Улёткі друкаваліся на машынцы Юзіка Качэргі — гэтую машынку прывезла некалі з Францыі ягоная цётка, якая была там на заробках.

Факунда Несцяровіч быў арыштаваны на Мядзельшчыне ў пачатку 1950 г. адным з першых. Яго арыштавалі, калі ён прыехаў на канікулы ў родныя Юшкавічы. Паводле слоў былых мядзельскіх вучняў, пры ператрусе ў яго была знойдзена зброя і выбуховыя рэчывы. Усіх арыштаваных маладзёнаў жорстка катавалі ў савецкіх турмах.

На працэсе ўдзельнікаў мядзельска-смаргонскага падполля, які адбыўся ў Маладзечне ў ліпені 1950 г. судзілі ажно 17 чалавек. На „працэсе" не было ні адвакатаў, ні нават пракурора. Пераважная бальшыня з падсудных трымалася на гэтым судзілішчы вельмі годна. „Слуханні" адбываліся з 17 па 20 ліпеня. Некаторыя былі засуджаныя да 10 гадоў савецкага канцлагера, бальшыня — ажно да 25 гадоў зняволення.

Чытанне прысудаў Лапіцкаму і Несцяровічу было вылучана ў асобную працэдуру. Ваенны трыбунал Беларускай вайсковай акругі прыгаварыў Факунду Несцяровіча і Расціслава Лапіцкага да расстрэлу. Абодвух трымалі ў Вялейскай турме ў камеры смяротнікаў. Восеньскай ноччу іх разам павезлі ў падвялейскі лес на расстрэл. Падвялі да выкапанай ямы, зачыталі спярша прысуд Несцяровічу. Усled абвясцілі пастанову Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР пра замену расстрэлу на 25 гадоў зняволення ў савецкіх канцлагерах. На Лапіцкага таксама была такая пастанова, але яго расстралялі. Напэўна таму, што ён катэгарычна адмовіўся пісаць прашэнне пра памілаванне.

Зняволенне Несцяровіч адбываў пераважна ў Варкуце. Пад канец 1950-х гадоў вызвалены. Адразу ж разам з бацькамі выехаў у Польшчу. Там скончыў будаўнічы інстытут, працаваў, ажаніўся з перасяленкай з Мядзельшчыны.

Памёр Факунда Несцяровіч 14 лістапада 1987 г., пахаваны ў Баляслаўцы Ніжнесілезскага ваяводства.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Усё жыццё з песняй

У шасцідзесятых гадах, калі я працаваў у Ваяводскім праўленні кіно, глядзеў шмат савецкіх фільмаў. І ўспомнілася мне раптам песня «Марш вясёлых рабят» Леаніда Уцёсава з кінафільма «Вясёлыя рабяты» (польскі загаловак фільма «Świat się śmieje»).

*Легко на сердце от песни весёлой,*
*Она скучать не даёт никогда,*
*И любят песни деревни и сёла,*
*И любят песни большие города.*
*Нам песня жить и любить помогает,*
*Она как друг и зовёт, и ведёт,*
*И тот, кто с песней по жизни шагает,*
*Тот никогда и нигде не пропадёт.*

Святая праўда. У гэтых словах адлюстравана мая біяграфія, мой жыццёвы шлях. З песняй дружу ўсё жыццё — ад дзяцінства па спелыя гады. Любіў я спяваць, голас у мяне звонкі, рэпертуар — багаты. Памятаю, як пасвіўшы кароў з бабулькай Анастасіяй, слухаў яе казацкія песні: «Скакал казак через долину», «Тече річка невеличка з вишневого саду», «Каким ты был, таким остался». Такія песні тады спявалі на вечарынах, на лавачках пры вясковых вуліцах. Маім кампаньёнам па спеве быў братуха Віктар. Ніводная кузаўская забава не адбылася без нашага выступу. Ды і на гулянках у наваколлі «канцэртавалі» — найбольш у Градалях на Бельшчыне. З моладдзю гэтай вёскі пазнаёміліся праз дзядзьку Рамана Брэньку.

А было гэта так. У палове пяцідзясятых гадоў, на Варвару, 17 снежня, завітаў да нас мужычок з-пад Рыгораўцаў, які хацеў купіць вугаль. Тады чыгуначнікам натурай давалі дзве з паловай тоны вугалю. А «чыгуначны» вугаль быў якасны, таму сяляне з Бельшчыны, дзе не хапала апалу, хлынулі ў Чаромху за вугалем. Ды і чыгуначнікі танней яго прадавалі. У нас вугальны паёк атрымлівалі бацька і старэйшая сястра Яўгенія. Традыцыйна на Варвару гасцяваў у нас дзядзька Раман з цёткай Ганнай з Дабрывады. Бацька згадзіўся прадаць вугаль прышэльцу. Затым запрасіў я ў госці да святочнага застолля. «Раман Брэнька з Градалёў» — адрэкамендаваўся госць, які аказаўся гаваркім субяседнікам.

— У мяне дарослыя дзеці, Коля з Верай, — кінуў у бок старэйшай сястрыцы Гені. — Прыязджайце, пазнаёмцеся...

Так пачалося наша знаёмства з Брэнькамі з Градалёў. Мы з Геняй і Віктарам гасцявалі ў іх на Ілью і Лукаша, яны ў нас на Тэклю. А ў Градалях была святліца. Моладзь арганізавала ў ёй танцавальныя вячоркі, існаваў мастацкі калектыў. Пры нагодзе сустрэч запрашалі нас на забавы, а ў перапынках паміж танцамі мы з Віктарам выступалі ў дуэце. Хітом нашых выступаў былі вядомыя песні — «Маладёжная», «Вася-Васілёк», «Ридна мати моя». Градалёўскія самадзейнікі выступалі ў святліцы ў Кузаве. З ходам гадоў Вера Брэнька выйшла замуж за афіцэра ВП і падалася ў Польшчу, Мікалай аформіўся на працу ў чыгуначнай Чаромсе. Пасля памёр. Засталася малодшая Марыся, якая працягвае традыцыю роду Брэнькаў і выступае ў бельскіх «Васілёчках». Няма ў жывых нашай старэйшай сястрыцы Яўгеніі, адышла ў вечны спачын восем гадоў таму. Любіла, як зрэшты мы ўсе, спяваць. Мноства песень ведала ды мела шыкарны голас. Яе сяброўкі па кампаніі збіраліся на лавачцы побач нашага дома і ў летнія суботнія вечары вялі доўгія напевы. Малодшы братуха, Віктар, яшчэ выходзіць з жанчынамі калядаваць на царкву. А мне адно засталося слухаць трансляцыі канцэртаў па тэлебачанні. Узрост ужо не той ды і са слыхам справа не найлепш маецца. А даўнейшых песень і зараз не забыўся. Багатую калекцыю грампласцінак захоўваю быццам рэліквію на памятку мінулых гадоў. Так ужо ў жыцці бывае.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Хобі
## Юрыя Равінскага

Юрый Равінскі прыехаў у Старое Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ў пачатку 1970 года. З 1965 да 1973 года тут будавалася керамічная фабрыка і спадар Равінскі стаў тут працаваць будаўніком-спецыялістам. Адсюль узяў сабе жонку. Зараз жывуць у прыгожым драўляным доме ў сярэдзіне вёскі.

З Юрыем Равінскім мы знаёмы многа гадоў. З таго часу, калі я працаваў у рэдакцыі „Нівы”, ездзіў у камандзіроўкі і наведваў стараляўкоўскую керамічную фабрыку. Ён тэлефанаваў у рэдакцыю „Нівы”, калі выкапалі бівень маманта і калі былі іншыя знаходкі або калі пачыналі выпускаць новы асартымент прадукцыі.

Юрый Равінскі мае сваё хобі. Ён не расстаецца з фотаапаратам і кінакамерай. На самых пачатках меў толькі фотаапарат. Калі прыехаў у Старое Ляўкова працаваць, у вольныя хвіліны здымаў на фотаплёнку пабудову фабрыкі ды выступы хору „Цаглінкі”. Рабіў сотні здымкаў, падрыхтаваў фотавыставу з нагоды саракапяцігоддзя ляўкоўскага завода. Вы-



ставы можна было глядзець у Гайнаўскім доме культуры, Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы і ў будынку „Карына” на беразе Семяноўскага вадасховішча. Ужо шмат гадоў важнейшыя падзеі, перш-наперш у Нараўчанскай гміне, запісвае на камеру.

Юрый Равінскі мае шматлікія запісы з розных культурных мерапрыемстваў, між іншым, беларускіх фэстаў, на CD і DVD-дысках. З сакавіка г.г. я глядзеў і слухаў запісы беларускіх песень. Сярод іх ёсць „Гімн Ляўкова” (з прыгожымі здымкамі вёскі) ды каляндак у выкананні калектыву „Цаглінкі”. Жадаем яму поспехаў.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**1.** член радні, **2.** рэгіён Іспаніі з Мадрыдам, **3.** выбуховае рэчыва Альфрэда Нобеля, **4.** краіна з Маракешам і Рабатам, **5.** зорная пара сутак, **6.** інструмент для праколвання адтулін, **7.** антонім халадэчы, **8.** амерыканскі штат насупраць Чукоткі, **9.** калгасніца з надоямі, **10.** буйны баварскі горад, **11.** горад на паўднёвым захадзе Люксембурга, **12.** неабходная ў кухні.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | | | |
| | 2 | | | | | | 3 | | | | 4 | |
| 5 | | | | 6 | 7 | | | 8 | | | | 9 |
| | | 10 | | | | | | 11 | | | | |
| | | | | | | | | 12 | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Чарадзей, адвакат, мат, Баранавічы, сяржант

Рашэнне: **Дзе вада там вярба**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# 10.03 — 16.03

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш мэтанакіраваны; не спяшайся. Будзь крытычным пры новых знаёмствах. 15-17.03. непрадбачаны візіт сваякоў можа пакрыжаваць табе планы. Да 13.03. глянеш на прафесійныя праблемы свежым вокам. Шукаючыя працу могуць паставіць працадаўцам лішне высокія патрабаванні. Здароўе пакуль ненайлепшае, аж не міне зіма — не фарсіруйся, адпусці некаторыя рэчы.

**(21.04. — 21.05.)** Зоркі заахвоцяць да эксперыментаў, навінак. Цяжкія справы папхнеш да пераду. 11-14.03. рамантычныя сустрэчы. Паявяцца цікавыя людзі. Пазбудзешся непатрэбшчыны, якая цябе прыгнятае. Памогуць табе людзі, да якіх будзеш мець шчасце (неабавязкова твае аднадумцы). Не займайся фармальнасцямі. Будуць большыя выдаткі.

**(22.05. — 22.06.)** 15-17.03. атрымаеш важныя інфармацыі. Але задачы, якія даручаць табе 12-16.03., могуць цябе перарасці Зазззяеш у кожнай кампаніі. Не на адну асобу акажаш уражанне. Твой аматар можа паводзіць сябе наадварот — можа табе дакучаць, зводзіцца з цябе, злосна каменціраваць; хоча на сябе звярнуць увагу? На працы большыя патрабаванні, варта цяпер падвучыцца, здаць экзамены, лепш сарганізаваць месца працы. 15-17.03. на працы можа выбухнуць афёра (не будзе цябе датычыць). Што б ты ні выбраў — будзь упэўнены ў сваім рашэнні. Задбай аб добры сон.

**(23.06. — 23.07.)** Цярпліва чакай моманту, будзе поспех. Цяпер можаш пазбыцца недаробак, паправіць памылкі. Былое каханне можа ажыць каля 11.03. Таксама не спяшайся! Можаш нанова скласці адносіны з членамі сям'і. На працы не рызыкуй, афармляй найважнейшыя справы. 15-17.03. можаш непатрэбна заблытацца ў інтрыгу. Патрабуеш больш адпачынку, медытуй.

**(24.07. — 23.08.)** 10-11.03. спакойна, бяспечна. 14-16.03. пераканаеш кожнага да ўсяго, што хочаш. Рыхтуйся да большага высілку. Хтось знаёмы будзе круціць нейкую інтрыгу, нічога не высветліш да наступнага месяца, але заступіся за супрацоўніка. 12-16.03. шанцы для Львоў з уласным бізнесам, але кошты могуць аказацца большымі чым ты меркаваў. Зрабі араматны масаж, больш варушыся.

**(24.08. — 23.09.)** Часовыя складанасці ў парах. Трохі пабывай у кампаніі, не зашывайся дома. Можна будзе высветліць справы з мінулага. Будзеш цярплівы і трывалы. 12-16.03. квадратура Сонца з Юпітарам можа кепска адбіцца на тваіх сямейных адносінах. 15-17.03. не падпішы некарысных для сябе дамоў. Таксама лішне не падтрымлівай «патрабуючых».

**(24.09. — 23.10.)** Не саромейся паказваць свае таленты, хтосьці на іх пазнаецца. Вернецца вера ў сябе, а затым пойдуць цікавыя прапановы. Падумай, ці рэальныя твае мары пра ідэальнае каханне; недахоп кантакту з рэальнасцю можа шмат цябе каштаваць. Глядзі, каб твой перфекцыянізм не замяніўся ў працагалізм. Пільнуйся з тым, што і дзе ясі, што купляеш.

**(24.10. — 22.11.)** 11-15.03. прэзентуешся з як найлепшага боку. Але з 15-17.03. можа паявіцца некарысны збег акалічнасцей і пакрыжаваць табе планы. Магчымасці развою і рэалізацыі зацікаўленняў. Знойдзеш аварыйны выхад з кожнай сітуацыі. Будзеш вельмі прывабным. 14-16.03. добрыя весткі ад далёкіх сваякоў. Павышай кваліфікацыі, можаш пачаць новы перыяд у сваёй прафесіі (можа быць цікавы праект ці інвестыцыя, новае камп'ютарнае абсталяванне, вывучванне моў). Паверыць сабе могуць у неспрыяльных абставінах асабліва Скарпіёны з II дэкады. Пільнуй насавых пазух і горла.

**(23.11. — 22.12.)** 12-16.03. канфлікты з кіраўніцтвам і чыноўніцка-юрыдычныя праблемы. 15-17.03. непатрэбна могуць панесці цябе нервы. 14-16.03. варта падтрымаць кантакты з далёкімі сваякамі, можа вынікнуць сур'ёзнае супрацоўніцтва, сямейная фірма. Слухай тое, што табе кажуць і чаго просяць сваякі. Папраў памылкі.

**(23.12. — 20.01.)** 9-11.03. паправіш і пашчыльніш адносіны з сям'ёй. Не будзеш баяцца сюрпрызаў. Тую асаблівую асобу варта пашукаць. Вядзі адкрыты дом 14-16.03. Дадатковыя абавязкі на працы 15-17.03. — будзеш ратаваць праект! Справішся. Больш руху, не бойся адлігі.

**(21.01. — 19.02.)** Здабудзеш вопыт, разбярэшся ў справах, на якіх не вельмі знаешся. Будзе крыху нервова, але ўсё пойдзе па-твойму. Дома два разы падумай, пакуль скажаш. На працы слухай, зможаш прыняць удзел у фірменнай гульні. Не рабі нічога на апошнюю хвіліну.

**(20.02. — 21.03.)** 11-15.03. заінспіруешся да адважных і амбітных дзеянняў. Але 15-17.03. пільнуйся, каб цэлячы высока, не праваронiць здабычу. Увесь месяц будуць шчаслівыя нагоды — узірайся і хапай! Удала аформіш нялёгкія справы. 12-16.03. можа аказацца, што дарогі з партнёрам разышліся, але расстанне не будзе вельмі балючае. Самотныя Рыбы: сярод шкельцаў можа заззяць дыямент, нялёгка будзе яго ўбачыць і вылавіць — памогуць табе зоркі 15-17.03.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**



# У Дзмітровічах, на Камянеччыне

— Сто разоў праязджаў і ніколі не быў усярэдзіне, — кажа Дарафей Фіёнік.

Ківаю галавой у знак згоды.

— І я заўсёды цалавала ў клямку, — сцвярджаю з недаверам.

Пераступаем парог у прытвор Спаса-Праабражэнскай царквы ў Дзмітровічах.

— Заходзьце, заходзьце, — заклікаюць усярэдзіну ветлівыя жаночыя галасы.

Падбадзёрвае нас выпадковасць, якую часам называюць «шчасцем». Каб прыехалі пяць хвілін пазней, нікога ўжо не заспелі б.

— О, то вам *пошчастыло!* — кажа адна з жанчын. — А мы толькі што прыбралі і ўжо выходзілі...

— Ну, пашчасціла, — падтакваем, — пашчасціла!.

За сціплым абменам слоў скрываецца шмат недарэчных перашкод, якіх немагчыма абысці без дакладнага плана, ранейшых захадаў і дамоваў. Карацей, вясковыя цэрквы ў Беларусі закрытыя на тры замкі. Іх адкрываюць адно ў час багаслужбы, ды і то не ў кожнае свята. Бывае, адзін святар абслугоўвае дзве-тры парафіі. Кантактавацца трэба па тэлефоне. І гэта яшчэ нічога не абяцае і не гарантуе поспеху. На Камянеччыне інстытут плябаніі практычна не існуе.

— Наш *бацюшко* наязджае ажно з Берасця, — кажуць жанчыны, — бо тут няма такіх умоў, каб пасяліць яго з сям'ёй. І людзі не надта горнуцца да царквы, — у голасе субяседніц адчуваецца бездапаможнасць. — Вось у нядзельку прыйдзе пяць-дзесяць старых, то і ўсё, на ўсю парафію з шаснаццаці вёсак.

Царква ў Дзмітровічах прамаўляе як «вароты» ў Белавежскую пушчу. Кожны, хто едзе з усходу ці з поўдня, не можа адвесці вачэй ад блакітнай будоўлі з геаметрычнай званіцай. Усё бляднее і нікне ў яе загадкавай аўры, вабіць знаёмай эстэтыкай і заклікае ўсярэдзіну.

І кожны раз, калі праязджаю побач, адчуваю радасць сустрэчы, як з жывым, дарагім чалавекам.

* * *

Цягам стагоддзяў Дзмітровіцкая царква прамаўляла як духоўны і культурны цэнтр, а духавенства карысталася вялікім аўтарытэтам у народзе. Камянецкі краязнаўца Георгій Мусевіч, у прыватнасці ўнук гераіні прыведзенай гісторыі, аднатаваў крымінальную прыгоду з часоў свайго дзяцінства.

Яго бабуля, матушка Марыя Елянецкая, рана аўдавела і асталася жыць з 9 дзяцьмі. Пасля смерці бацюшкі яна занялася земляробствам і абрабляла 21 гектар зямлі. У яе было чатыры каровы, 4-5 свіней, 120 курэй. У кожны Вялікдзень матушка выстаўляла вялікі стол, засланы абрусамі і ўпрыгожаны барвенкам. На ім ставіла святочныя смакоцці. Цягам дня прыходзілі да яе сяляне павіншаваць са святам. Іх абавязкова садзілі за стол, частавалі ядой і добрым словам.

*«У 1938 годзе мне было 7 гадоў,* — піша Мусевіч, — *мы паехалі з бабуляй у Камянец, каб прадаць свінню. Калі вярталіся дамоў, дзесьці два кіламетры за Камянцом, у месцы, якое называлі Пэрапілкі, часта рабавалі людзей. Мы ўжо пад'ехалі да гэтага месца. А там выскоквае двух! Адзін лезе на воз, другі трымае каня за вуздэчку: — Есць у вас грошы? Давайце грошы!*

*— Я гэта памятаю па сённяшні дзень,* — піша Мусевіч. — *Мне стала страшна-страшна. Адзін бандыт трымаў рэвальвер, другі вінтоўку.*



*Бабуля нічога не сказала. Але літаральна, праз некалькі секунд з-за дзерава выйшаў трэці чалавек. Падышоў да нас, а ўжо наблізіліся прыцемкі, паглядзеў, прыглядзеўся маёй бабулі і кажа: — А, гэта ж Елянецкая. Хлопцы, выматваем!»**

Як пасля аказалася, дарогу ў Пэрапілках пераступіў ім вядомы на ўсю акругу бандыт Акім.

* * *

Слава Дзмітровіцкага прыхода, хоць раздзяліў нас жалезны кардон, далей жыве ва ўспамінах старажылаў з Арэшкава, Вярстока, Доўгага Броду... Да вайны ўсе шляхі вялі ў гэты бок, да Камянца. Тут бушавала жыццё, тут жылі свае людзі. Сюды прыязджалі на царкоўныя фэсты, тут выбіралі жонак, тут вянчаліся...

Адразу пасля пераступлення парога ўразіў хатні настрой сакральнай пабудовы. У прытворы красавалася пышная канапа, засцеленая каляровай радзюгай. Па другім баку праз прыадчыненыя дзверцы віднела кацельня. Хацелася звычайна прысесці, падыхаць...

Аднак за чарговымі варотамі настрой рэзка пераменіўся. У вочы кінуўся іканастас, абведзены драўлянай разьбой з матывамі вінаградніку. За ім красаваліся дзве монументальныя старыя іконы Багародзіцы і Ісуса Хрыста ў сярэбраных абкладах.

— Наша царква найстарэйшая з усіх, нідзе ўжо такой няма, — кажа адна з жанчын, на выгляд настаўніца-пенсіянерка.

Дзмітровіцкая царква пабудаваная ў 1786 годзе. Узвялі яе пры бацюшку Фёдары Будзіловічу, які сам часткова з'яўляецца фундатарам храма. Гэты святарскі род звязаны з Дзмітровічамі больш за стагоддзе. Ён таксама незвычайна звязаны з Падляшшам, але пра гэта будзе далей...

— Заўтра ў нас *Бацькоўская субота*, — кажуць жанчыны.

На прастоле, па левым баку стаяць ужо пакеты з мукой, і васковыя свечкі ...

— Ці многа прыйдзе людзей памаліцца за душы продкаў?

— Больш за трыццаць не будзе, — зводзяць усё на зямлю жанчыны, — і то ўсе такія *бы то* мы, старыя...

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960